


Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№609, Ліпень-Верасень 2014
г. Год выданьня 65


## Шаноўныя чытачы!

Запрашаем вас пазнаёміцца з чарговым выпускам нашай газэты. Спадзяемся, што ягоны зьмест будзе для вас цікавым.

Галоўнаю тэмаю гэтага нумару ёсьць 31-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая адбывалася напрыканцы жніўня ў Нью-Ёрку. Тыя, хто ня змог прысутнічаць на сьвяце, маюць магчымасьць даведацца, як адбывалася падзея і, можа, нават пашкадуюць, што не знайшлі часу, каб прыйсьці на сустрэчу з сябрамі.

Падаем таксама інфармацыі пра актуальныя палітычныя падзеі і наш удзел, найперш яны тычацца сытуацыі ва Украіне.

Пачатак восені - час традыцыйных фэстываляў. Адбыўся беларускі фэстываль у Саўт-Рываэры, і пра гэта нам даслаў інфармацыю сп. Янка Запруднік. У Нью-Ёрку праходзіў вялікі бруклінскі фэст Атлянтык Антык, у якім штогод бярэ самы актыўны ўдзел Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ, пра гэта таксама можна прачытаць у газэце і парадавацца за нашу Парафію, якая атрымала ўзнагароду за актыўны ўдзел у Фэстывалі і за значны ўклад у разьвіцьцё нашага раёну.

Таксама хацелася б зьвярнуць вашую ўвагу на інфармацыю пра Другі фэстываль мастацтваў беларусаў сьвету, які прайшоў сёлета ў Менску. На гэтую тэму хацелася б запрасіць вас да гаворкі, прапануем выказаць свае меркаваньні і ацэнкі падзеі і даслаць нам у рэдакцыю для друку.

Як заўсёды, просім вас не забывацца на фінансавыя патрэбы нашай газэты і дасылаць свае ахвяраваньні, мусім трымаць разам гэту амаль што адзіную у беларускім замежжы газэту.

Да новых сустрэч!

*Рэдакцыя*

## 31-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі



*Мы, Беларусы краінаў замежжа,*
*З краю між Вільняй, Смаленскам і Вежа,*
*Лёсам па свеце белым раскіданы.*
*Нас на выгнаньне гукае ня ежа -*
*Прага пазбавіць сябе ад кайданаў.*

*Мы памятаем бацькоўскія гоні,*
*Чырвань на белым з расьсечанай скроні.*
*Мову шануем, трымаем наш Сьцяг.*
*Сэрцы натхняе імклівасьць Пагоні -*
*Беларусь! Беларусь!!*
*На чужыне ты маеш працяг.*

*Мы, Беларусы замежжаў шматкутных,*
*Разам з табою, народзе пакутны,*
*З клятвай стагоддзяў "Ня раб! Не скарусь!",*
*З вераю ў прышласьць і Богам Магутным*
*Мужна змагаемся за Беларусь...*

У апошнія дні жніўня ў беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры на Атлянтык Авэню 401 было шматлюдна і весела. Гучала музыка, сьпевы, гамонка і вясёлы дзіцячы сьмех. Беларусы Нью-Ёрку прымалі гасьцей - удзельнікаў чарговай, 31-й, Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Распачатая ў 1952 годзе традыцыя трывала захоўваецца да сёньняшняга дня, працягваюць яе новыя і новыя пакаленьні беларускіх эмігрантаў. Праўда, ранейшыя Сустрэчы былі больш шматлюднымі, бо яшчэ актыўны ўдзел у іх бралі паваенныя эмігранты. Сёлета іх сярод гасьцей ужо адзінкі, але маладзейшыя не здаюць пазыцыі і прыклалі шмат намаганьняў, каб традыцыя не перапынілася. Трэба прызнаць, што было гэта няпроста ў сёньняшні складаны час для самой Беларусі і беларусаў на чужыне. Аднак сьвята атрымалася і дало надзею, што сяброўскія кантакты беларусаў Канады і ЗША працягнуцца ў будучыні.

Два гады таму беларуская дэлегацыя зь Нью-Ёрку наведала беларускі цэнтр у Таронта, дзе тады праходзіла папярэдняя 30-я Сустрэча. Яна пакінула самыя добрыя ўражаньні, і ў нашых сэрцах захавалася цеплыня ад сяброўскага сардэчнага прыёму, які аказалі нам канадыйскія беларусы. Мы сустракаемся раз у два гады і па чарзе сумесна ладзім Сустрэчы. Тады ў Таронта мы запрасілі нашых сяброў на наступную Сустрэчу у Нью-Ёрк. Канадыйцы адьдзячылі нам сваім прадстаўнічым прыездам на наша сьвята. У складзе дэлегацыі былі старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп-ня Івонка Сурвілла, старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады сп-ня Валянціна Шаўчэнка з мужам Юркам, знаная пісьменьніца сп-ня Вольга Іпатава з мужам Ягорам, мастачка-вышывальшчыца сп-ня Ірына Варабей, актыўны ўдзельнік беларускага жыцьця сп. Алесь Кот - аўтар паэтычных радкоў, вынесеных на пачатку гэтага артыкулу і складзеных ім менавіта да гэтай падзеі.

Традыцыйна асноўнымі арганізатарамі Сустрэчаў выступаюць Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК) і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). Так што другую частку ўдзельнікаў сьвята складалі сябры БАЗА зь Нью-Ёрку, Нью-Джэрзі, а таксама прадстаўнікі ягоных структураў з Вашынгтону, Флярыды, Чыкага. На жаль, гэтым разам ніхто не прыехаў з Кліўлянда. Ганаровым госьцем на Сустрэчы быў намесьнік старшыні Рады БНР, журналіст Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода сп. Сяргей Навумчык, які прыехаў з Прагі.

Непасрэдна падрыхтоўкаю Сустрэчы займаўся створаны Галоўнай управаю БАЗА арганізацыйны камітэт

*Працяг на 2-й бачыне*

# 31-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі

*Заканчэньне з 1-й бачыны*

на чале з сябоўкаю Галоўнай управы сп-няй Тацьцянаю Красоўскаю і Бруклінскі аддзел БАЗА пад кіраўніцтвам сп. Андрэя Асадчага.

Праграма Сустрэчы была разьлічаная на два



*Івонка Сурвілла на сустрэчы з моладзьдзю*

дні. У першы дзень, 30 жніўня, былі напачатку сяброўскія сустрэчы, кантакты з прыбылымі гасьцямі, а ў другой палове дня іх запрасілі на ўрачыстую імпрэзу адзначаньняня 23-й гадавіны аднаўленьня незалежнасьці Беларусі, якая прыпадае якраз на жнівень. Удзельнік падзеяў жніўня 1991 года, дэпутат Вярхоўнага савета 12 скліканьня Сяргей Навумчык падзяліўся ўспамінамі пра той час.



*"Касіў Ясь канюшыну". Выконваюць Максімка і Яна Капыткі*

Далей прайшло адкрыцьцё дзьвюх выставаў. Першая зь іх - фотавыстава сп. Джона Кунстадтэра - была падрыхтаваная загадзя. Імя сп. Кунстадтэра стала шырока вядома беларускай грамадзкасьці. Прафэсыйны дыплямат, ён некаторы час працаваў у амбасадзе ЗША у Беларусі і так пазнаёміўся з нашай краінаю, захапіўся беларускімі краявідамі, пазнаёміўся з гісторыяй краю, аб'езьдзіў амаль усю Беларусь і фатаграфаваў. У яго ных фота адлюстравана вялікая павага да краіны і яе людзей. Выстава дапамагае па-іншаму паглядзець на сваю Бацькаўшчыну, убачыць яе вачыма іншаземца і адкрыць для сябе нешта новае. Першае адкрыцьцё выставы адбылося раней - 3 жніўня, і сам сп. Кунстадтэр прадстаўляў творы і выдатна прамаўляў па-беларуску. Кожны год ён наведвае Беларусь і робіць новыя фота. Паехаў туды ён і сёлета, таму не прысутнічаў асабіста на Сустрэчы. Ягоную выставу на добрым прафэсыйным і эмацыйным узроўні ўдзельнікам Сустрэчы прадставіла сп. Валянціна Трыгубовіч.

Другую выставу беларускіх вышыванак адкрыла сама майстрыха сп. Ірына Варабей. Яна прывезла з Канады свае творы, выкананыя на высокім мастацкім узроўні. Можна сказаць, што сп-ня Ірына ёсьць на сёньня майстрам-прафэсіяналам у галіне вышыўкі, мае свае ўласныя творчыя напрацоўкі і ўласны брэнд "Spirit of Belarus". Вядома, найперш гэтай выставаю зацікавіліся жанчыны і дзяўчаты. Прысутныя задавалі мастачцы пытаньні, цікавіліся, наколькі складаная гэтая праца і як шмат патрабуе часу.

Пасьля смачнай вячэры гасьцей чакала забаўляльная праграма. Найбольшае месца ў ёй было адведзена сьпевам і танцам, якія працягваліся да позьняга вечара, пакуль стомленыя госьці яшчэ мелі сілы для скокаў. Музычную праграму на Сустрэчы забясьпечвала сям'я Валянціна і Тані Дзямешчыкаў, прафэсійных беларускіх музыкаў з Саўт-Рывэру, якая добра вядомая беларускаму грамадзтву ў Амэрыцы, а таксама з удзелам іх дарослых дзяцей. Трэба адзначыць, што яны выдатна справіліся і цудоўна ўпрыгожылі сьвята, за што ім наша самая цёплая ўдзячнасьць.

Другі дзень сёлетняй Сустрэчы пачаўся з афіцыйнага адкрыцьця сьвята. Перад гэтым жадаючыя маглі наведаць набажэнства ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ. Гасьцей віталі сургаНізатары - старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады сп. Валянціна Шаўчэнка і старшыня Галоўнай управы БАЗА сп-ня Ганна Сурмач, а таксама старшыня аргкамітэту сп-ня Тацьцяна Красоўская. Далей праграму вёў старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА сп. Андрэй Асадчы, ён даў слова для прывітаньня прысутным прадстаўнікам структураў БАЗА - з Вашынгтону - сп. Валеру Кавалеўскаму, з Флярыды - сп-ні Паліне Прысмаковай, з Чыкага - сп-ні Марыі Сухорцкай. Былі зачытаны пісьмовыя прывітаньні ад сп. Зянона Пазьняка і ад Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

Далей з прывітаньнем і са зьмястоўнай прамоваю выступіла старшыня Рады БНР сп-ня Івонка Сурвілла, яна акрэсьліла сучасныя праблемы як Беларусі, гэтак і дыяспары. (Поўныя тэксты прывітаньняў і прамовы сп. Сурвіллы падаюцца ніжэй).

У другой палове дня прайшла панэльная дыскусія на актуальную тэму: "Беларусы Паўночнай Амэрыкі. Выклікі часу. Пэрспэктывы разьвіцьця". З вялікай цікавасьцю былі заслуханы выступы сп. Сяргея Навумчыка, сп. Вольгі Іпатавай, сп. Вітаўта Кіпеля, сп. Валянціны Шаўчэнкі, сп. Валера Кавалеўскага. Прысутныя актыўна абмяркоўвалі набалелыя праблемы, выказваліся адносна прынятага ў Беларусі закона "Аб беларусах замежжа", дзяліліся сваімі меркаваньнямі і бачаньнем сытуацыі ў дыяспары і на Бацькаўшчыне, выказвалі прапановы і пажаданьні на будучыню. Дыскусія сталася найбольш прадуктыўнаю часткаю праграмы Сустрэчы. Пасьля яе завяршэньня сп-ня Івонка Сурвілла і сп. Сяргей Навумчык правялі кароткую нефармальную сустрэчу з моладзьдзю, цягам якой паінфармавалі маладых эмігрантаў пра дзейнасьць Рады БНР і адказалі на пытаньні прысутных.



*Ірына Варабей і яе выстава*

Удзельнікі Сустрэчы прынялі адмысловую рэзалюцыю, дзе гаворыцца:

«Мы, удзельнікі XXXI Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, абмеркаваўшы палітычную сытуацыю ў Беларусі і рэгіёне, а таксама справы беларускай дыяспары, выказваем салідарнасьць з украінскім народам, які бароніць сваю волю і незалежнасьць у змаганьні з расейскай агрэсіяй. Патрабуем ад расейскай улады вывесьці свае войскі з Украіны.

— Заклікаем беларускую дыяспару ў ЗША і Канадзе рабіць усе намаганьні, каб забясьпечыць Беларусі магчымасьць быць дэмакратычнай, суверэннай, незалежнай і тэрытарыяльна непадзельнай дзяржавай.

— Мы заклікаем беларусаў ва ўсім сьвеце працаваць на карысьць незалежнасьці Беларусі, адраджэньня нацыянальнай культуры, беларускай мовы і забесьпячэньня разьвіцьця вольнай эканомікі краіны.

— Патрабуем неадкладнага і безумоўнага вызваленьня, а таксама поўнай рэабілітацыі палітычных вязьняў у Беларусі.

— Выказваем падтрымку Радзе БНР і заяўляем аб вернасьці ідэалам 25 Сакавіка 1918 і 25 жніўня 1991 гг.»

Увечары пасьля афіцыйнай часткі гасьцям была прапанаваная мастацкая праграма. Адбыўся канцэрт, у якім спадарства Дзямешчыкаў прадставілі зьмястоўную праграму беларускіх мелёдый і песьняў. Прыемнаю неспадзяванкаю стаўся выступ сп-ні Валянціны Шаўчэнкі, якая цудоўна выканала некалькі старадаўніх беларускіх песьняў. Дачка спадарства Дзямешчыкаў цудоўна праспявала ўсімі любімую "Жураўлі на Палесьсе ляцяць" на словы Алеся Ставера. Сп-ня Вольга Іпатава з гэтай нагоды падзялілася ўспамінамі пра паэта, які быў сьціплым чалавекам, але меў глыбокую эмацыйную душу і напісаў верш, які стаў усімі любімаю песьняю на музыку Ігара Лучанка. Эмацыйна было ўспрынята выкананьне ўнучкаю сп-ні Алы Кузьміцкай Лізаю вядомай песьні на словы Канстанцыі Буйлы "Люблю наш край". Былі ў праграме і клясічныя мелёдыі, якія выканала прафесійная сьпявачка Аляксандра Турчанкова, цудоўна яна праспявала таксама і "О Беларусь, мая шыпшына ". Як заўсёды, упрыгожылі канцэрт маленькія артысты - двое дзяцей спадарства Сяргея і Тамары Капыткаў дружна праспявалі "Касіў Ясь канюшыну", саліраваў старэйшы Максімка, а маленькая Яна старалася яго падтрымаць сваёй прысутнасьцю на сцэне. Цёпла было прынята выкананьне беларускіх і ўкраінскіх песьняў дзяўчынкаю Кіраю Карніенка з украінскай сям'і, якая наведалася да нас у госьці.

Пасьля канцэрту ў залі яшчэ доўга гучала музыка, а прысутныя вялі сяброўскую гамонку, дзяліліся навінамі,



*Валянцін і Тацяна Дзямешчыкі*

успаміналі мінулыя Сустрэчы, гаварылі пра будучыню.

На завяршэньне Сустрэчы арганізатары падзякавалі гасьцям за ўдзел, за актыўнасьць, пажадалі ім шчасьлівага вяртаньня дамоў. Канадыйскія беларусы ў сваю чаргу падзякавалі гаспадарам і запрасілі ўсіх у 2016 годзе на наступную 32-ю Сустрэчу ў Канадзе, гэтым разам месцам правядзеньня была прапанаваная канадыйская сталіца Атава, дзе жыве хаця і невялікая, але вельмі актыўная беларуская грамада. Прапанова была ўспрынятая вельмі прыязна, бо яна азначала, што традыцыя правядзеньня Сустрэчаў не перапыніцца, што ёсьць каму працягваць патрэбную нам справу. Гэта надавала аптымістычны настрой прысутным, так патрэбны ў тыя сумныя хвіліны разьвітаньня з сябрамі. Сьвята скончылася, але, спадзяемся, пакінула ў прысутных добры і сьветлы ўспамін.

*Ганна Сурмач*

# Зварот да ўдзельнікаў 31-е сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі

***Івонка Сурвілла, 30-31 жніўня 2014 г. :***

Паважаныя Суродзічы, дарагія сябры!

Маю вялікую прыемнасьць вітаць Вас ад імя Рады БНР з гэтаю 31-ю Сустрэчаю Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, павіншаваць яе арганізатараў і пажадаць усім нам плённай працы.

Ехала я сюды з надзеяю, што знайду словы, каб перадаць Вам трывогу, якую выклікае ў мяне новая пагроза незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны ў сувязі з падзеямі ва Украіне і агрэсіўнаю палітыкаю Масквы, і адначасна выказаць надзею, што край наш усё ж выжыве, што прынамсі тыя з нас, што апынуліся ў вольным сьвеце, змогуць абараніць тое, што яшчэ зэасталося з тае незалежнае дзяржавы, якую наш зьбянтэжаны народ даручыў дваццаць гадоў таму свайму першаму прэзідэнту - Аляксандру Лукашэнку.

...Маскоўская агрэсія супраць Украіны сталася доказам для тых, хто яшчэ нам ня верыў, што ўсё, што мы гаварылі пра Расею - праўда. Ёсьць таксама штораз болей відавочным, што Лукашэнка сёньня бясьсільны васал Расеі, і што ён змушаны - каб затрымацца пры ўладзе, - выконваць загады Масквы, незалежна ад таго, ці яны адпавядаюць інтарэсам Беларусі, ці не.

Ня першы гэта дыктатар на нашай плянэце, які нішчыць свой край і свой народ каб захаваць сваю ўладу. Затое мала ёсьць народаў, якія да той ступені маўкліва цярпяць перасьлед.

"Абы не было вайны"... Колькі разоў мне прыходзілася апраўдваць перад чужынцамі нашую цярплівасьць і так званую памяркоўнасьць. АЛЕ ЦІ НЕ ХАВАЕЦЦА за імі нешта больш страшнае і шмат больш трагічнае, як наш інстынкт асабістага самазахаваньня? Ці ня ёсьць гэта поўная адсутнасьць жаданьня, якое праяўляе кожны народ у гэтым 21 веку - жыць годна і вольна? Заўважаецца нават у нас нейкая хвараблівая непавага да суродзічаў - якая выяўляе нішто іншае, як нелюбоў да самых сябе. Таму гаворым міжсобку на чужой мове, таму не праяўляем ніякай салідарнасьці ў дачыненьні да тых між намі, што ня дзеля сваёй віны апынуліся ў няволі. Гэта, магчыма, і ёсьць прычынай вечных спрэчак між намі бо "ён жа такі як я, дык як ён можа быць правы, а я не???"

Колькі энергіі і часу - і грошаў - мы марнуем, каб даказаць адны другім, што мы разумнейшыя, што толькі мы ведаем, як і што рабіць, і таму не зьвяртаем увагі на апінію іншых.

Трэба неяк пазбыцца гэтай вялікай беларускай слабасьці - бо ёсьць між намі і тыя, што далучыліся да нас з намерам - ці заданьнем - разбурыць тое, што было намі асягнута вялікімі высілкамі за паўстагодзьдзе эміграцыі. Тыя, хто стараецца пераканаць нас, што лепш не займацца палітыкай і што й так тое, што мы робім, нікому не патрэбнае. Між іншым заўважыла, што гэта таксама ёсьць галоўнаю місіяю ўсіх лукашэнкаўскіх амбасадаў і прадстаўніцтваў.

Нашым добрым людзям будзе вельмі цяжка абараніцца ад іх, калі мы ня станем салідарнымі. Толькі зьяднаныя мы станем сілай, зь якой і свае, і чужыя стануць лічыцца. Толькі зьяднаныя мы можам дапамагчы Беларусі.

Што мы ня бачым гэтага, асабліва трагічна цяпер, калі агрэсіўны сусед пагражае незалежнасьці Беларусі, і народ наш можа зьнікнуць з паверхні гэтае зямлі. Бо так доўга, як людзі на вуліцах Гародні ці Менску будуць вінаваціць кіеўскі Майдан за пуцінскую агрэсію супраць Украіны, так доўга, як народ будзе маўкліва успрымаць акупацыю Беларусі ня толькі расейскімі алігархамі, але й маскоўскімі збройнымі сіламі, якія памнажаюць свае базы ў Беларусі, ніхто у сьвеце ня будзе нас бараніць. Бо нас будуць лічыць за саўдзельнікаў у маскоўскіх злачынствах, а не ахвярамі іх.

Гавару сёньня пра ўсё гэта, каб нашая грамада ў Паўночнай Амэрыцы задумалася над лёсам свайго народу, ды ўзялася за працу, каб яго выратаваць, каб яго РАЗБУДЗІЦЬ - пакуль яшчэ ён ня ў складзе маскоўскай імпэрыі.

Для гэтага трэба, каб мы адчулі свае беларускія - а не савецкія - карані, гаворачы па -беларуску між сабою - бацькі зь дзецьмі, сябры зь сябрамі.

Трэба, каб захоўвалі беларускую культуру, каб паважалі беларускія традыцыі - і ня толькі культурныя. Трэба, каб дзяліліся імі зь сябрамі іншых паходжаньняў, каб яны пра нас ведалі.

Нехта казаў, што трэба спачатку абжыцца, а пасьля будзе час займацца беларушчынаю. Не. На першым месцы трэба ставіць нашую спадчыну, каб не загінуць! Я тут паўтараю тое, што казаў Багушэвіч болей за стагодзьдзе таму. На жаль, народ наш - з дапамогаю чужых ідэолягіяў і сваіх рэнэгатаў - пра гэта забыўся. А дыяспара дала сабе за мэту здабыць матэрыяльныя выгады, перад тым як думаць пра сваіх продкаў, пра свой народ!

Але перадусім, дарагія Суродзічы, нам трэба любіць адны другіх, так як любім сваю сям'ю. Спрэчкі ў сям'і не трывалыя, не спараджаюць нянавісьці. Толькі раб ня любіць свайго бліжняга, бо бачыць у ім сваю уласную нікчэмнасьць. МЫ НЕ РАБЫ! Давайма супольна працаваць на карысьць нашае супольнае Бацькаўшчыны - Беларусі.

У Паўночнай Амэрыцы, нашаю прысутнасьцю ў грамадзкім жыцьці мы ўжо робім вялізарную працу для дабра Беларусі. Безумоўна, трэба каб людзі ведалі, ХТО мы. Каб нас шанавалі і любілі. У выпадку патрэбы, яны стануць на наш бок, і ня трэба будзе ім тлумачыць, што Лукашэнкаўскі рэжым не прадстаўляе сабою беларускага народу.

Падзялілася з Вамі сваімі клопатамі. Я прымаюся будучыняю Беларусі, таму што я бясконца люблю Беларусь. Пагроза ейнай незалежнасьці для мяне ёсьць нязноснаю. Веру, што такой яна ёсьць і для усіх Вас тут прысутных, і таму РАЗАМ, мы асягнем мэту рады БНР і усіх нас - вольную, дэмакратычную і беларускую Беларусь.

Жыве Беларусь!

# Шануйма вольную Беларусь

***30 жніўня 2014 г., Зянон ПАЗЬНЯК :***

Паважаныя спадарыні і спадары! Дарагія Беларусы! Вітаю ўсіх на 31-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Цяперашняя сустрэча адбываецца ў складаны міжнародны і цяжкі для нашай Бацькаўшчыны час. І якраз гэты цяжкі час вымагае ад усіх беларусаў у сьвеце ўзаемаразуменьня і гуртаваньня на падставе каштоўнасьцяў, якія важныя для нашага дзяржаўнага, нацыянальнага і культурнага існаваньня, - беларуская мова, культура, свабода.

Наша краіна ўжо 20 гадоў знаходзіцца пад унутранай акупацыяй прарасейскіх стаўленікаў і функцыянераў. 20 гадоў вядзецца ўнутраная вайна Масквы супраць беларускай нацыі. Мы бачым яе разбуральныя вынікі.

У гэтым годзе Расея напала на Украіну, захапіла Крым, акупавала Данбас. Зараз там ідзе вайна. Украінцы ваююць з расейскім войскам і бандамі расейскіх наймітаў.

Цяперашні 31-ы збор беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбываецца ў пераломны час, калі зьмяняецца сусьветны парадак, створаны пасьля 2-й Сусьветнай вайны. Гэты парадак, практычна, ужо не існуе. Сьвет вяртаецца да ўзроўню 1939 года.

Агрэсія Расеі супраць Украіны (цалкам прадбачаная у нас у Беларусі і ва Украіне) стала поўнай нечаканасьцю для Захаду, які ня ведае, што рабіць, каб захаваць свой камфорт і статус кво. Але для нас, для беларусаў і для украінцаў, зноў паўстала пытаньне свабоды і нацыянальнага існаваньня.

Зараз лёс Усходняй Эўропы вырашаецца ва Украіне. Калі б адбылася акупацыя Украіны Расеяй, то працягам яе стала б далейшае ўвядзеньне расейскага войска і ўзбраеньняў на Беларусь, стварэньне дэ-факто зоны акупацыі нашай краіны.

Эўропа, як звычайна, не ўсьведамляе сур'ёзнасьці становішча, але мы, беларусы, гістарычна вымушаныя тое разумець, нягледзячы на поўнае панаваньне рускага гёбэльс-тэлебачаньня і рускай ілжывай прапаганды ў беларускай інфармацыйнай прасторы.

Вольныя беларусы (гэта значыць тыя, якія адмаўляюць антыбеларускі рэжым Лукашэнкі), гэтыя беларусы ідэёва і парктычна (гэта значыць практычнымі дзеяньнямі - удзелам у вайне на баку ўкраінцаў) падтрымліваюць абаронцаў Украіны, што ваююць супраць рускага нашэсьця.

Мы ўсе вольныя беларусы кажам: Слава Украіне! Героям слава!

Мы, беларусы за мяжой, нашыя беларускія арганізацыі за мяжой, нашая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква - усе падтрымліваем нашых братоў украінцаў у іхнай барацьбе і ў іхнай сьвятой абароне Айчыны.

Адначасна мы бачым, як крок за крокам, пад прыкрыцьцём прамаскоўскага рэжыму адбываецца ціхая вайсковая акупацыя Беларусі, уводзяцца рускія войскі на нашу тэрыторыю, рускія эскадрыльлі стратэгічных самалётаў займаюць беларускія аэрадромы, у беларускім войску створаныя цэлыя расейскія гарнізоны (напрыклад, у Менску на вуліцы Якуба Коласа), дзе расейскія вайскоўцы маскуюцца ў беларускай армейскай форме. Расейскія генэралы і

*Працяг на 4-й бачыне*

# Шануйма вольную Беларусь

*Працяг з 3-й бачыны*

афіцэры таемна ўведзены ў беларускія сілавыя структуры, і ўвесь наш сілавы блёк ужо насычаны расейскімі шпіёнамі і інфарматарамі.

Крэмль ужо даўно рыхтуе ўкраінскі сцэнар на Беларусі. Пуцін пра гэта аб'явіў яшчэ ў 2002 годзе, калі заявіў аб планах захопу Беларусі і далучэньня нашай тэрыторыі да Расеі шасьцю вобласьцямі.

Цяперашняя сытуацыя ва Ўсходняй Эўропе паказвае, што пры разгортваньні ўкраінскага сцэнара ў Беларусі адзіным эфэктыўным і абавязковым сродкам супраціўленьня мусіць стаць збройная барацьба з акупантам. Адсутнасьць збройнага змаганьня будзе азначаць аншлюс нашай краіны па волі народа. Беларусы не павінны такога дапусьціць, таму рыхтавацца да збройнага супраціву трэба ўжо цяпер, і кожны дзень, і кожную гадзіну. І такі працэс ужо пачаўся. Ёсьць беларусы, якія ваююць за вольную Украіну. Ёсьць патрыёты, якія будуць абараняць Беларусь.

Заклікаю беларусаў замежжа падтрымліваць вольную Беларусь і вольную Украіну і быць гатовымі дапамагаць Бацькаўшчыне ў змаганьні супраць рускага фашызму і імпэрскай агрэсіі крамлёўскай Расеі. Падтрымлівайма і шануйма самых сябе і свой народ.

Жыве Беларусь! Вечна жыве! Слава героям!

# Шаноўныя сябры!

Ад імя Згуртаваньня беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна вітаем удзельнікаў 31-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Шчыра спадзяемся, што гэтая сустрэча пройдзе плённа і канструктыўна, і прынясе жаданыя вынікі.

Ужо больш за 60 год Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі зьбіраюць разам людзей розных палітычных і рэлігійных поглядаў, прадстаўнікоў самых розных прафэсій з розным сацыяльным статусам. Галоўнае, што аб'ядноўвае ўсіх гэтых людзей, — гэта любоў да Беларусі, яе гісторыі, мовы, культуры і традыцый.

Арганізаваны Вамі высокі Форум, безумоўна, мае надзвычай вялікае значэньне для беларусаў Амэрыкі, бо ён зьбірае прадстаўнікоў беларускай дыяспары з усяго Паўночна-Амэрыканскага кантынэнту дзеля абмеркаваньня найбольш актуальных і вострых пытаньняў жыцьцядзейнасьці беларускіх арганізацый у Амэрыцы. Ён важны таксама і для беларускіх суполак па ўсім сьвеце, і для беларусаў мэтраполіі як добры прыклад таго, як можна захоўваць сваю нацыянальную ідэнтычнасьць і працаваць на карысьць беларускай культуры, жывучы за тысячы кілямэтраў ад Беларусі.

Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" высока цэніць Вашу актыўную працу па папулярызацыі беларускай культуры і захаваньні беларускіх нацыянальных традыцый у Амэрыцы. Шчыра верым, што гэтая праца працягнецца і надалей.

Жадаем усім удзельнікам сёлетняй Сустрэчы добрага здароўя, аптымізму, сіл і натхненьня для далейшай плённай дзейнасьці на ніве захаваньня і разьвіцьця беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# Заява Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў справе агрэсіі Расеі супраць Украіны і становішча Беларусі

Рада БНР,

- у занепакаеньні аб факце збройнай агрэсіі Расейскай Фэдэрацыі супраць Украіны і аб наступствах для лёсу Беларусі і рэгіёна,

- зазначаючы міжнародна-праўнае вызначэньне агрэсіі, дадзенае ў Рэзалюцыі Генэральнай Асамблеі ААН 3314 (XXIX) ад 14 сьнежня 1974 году,

- спасылаючыся на артыкул 51 Статуту ААН аб неад'емнасьці права дзяржаваў-сяброў ААН на індывідуальную і калектыўную самаабарону ад збройнага нападу, а таксама Артыкул 42 Статуту ААН аб дзеяньнях міжнароднай супольнасьці паветранымі, марскімі і сухапутнымі сіламі дзеля абароны міжнароднага міру і бясьпекі ад агрэсара,

- робячы выснову, што дзеяньні расейскага кіраўніцтва і асабіста прэзыдэнта Расеі Ўладзіміра Пуціна наўпрост пагражаюць міру ў Эўропе і ўпершыню пасьля зьнікненьня СССР ствараюць у рэгіёне небясьпеку буйнамаштабовае вайны,

- канстатуючы ненадзейнасьць замірэньня, усталяванага паводле заключанага 5 верасьня пагадненьня, зважаючы ў тым ліку на папярэднія прэцэдэнты парушэньня або невыкананьня Расейскаю Фэдэрацыяй і падкантрольнымі ёй нерэгулярнымі ўзброенымі фармаваньнямі сваіх абавязальніцтваў у рамках мірных пагадненьняў, у тым ліку пагадненьняў аб замірэньні ў Грузіі ад 2008 года,

- прыгадваючы Заяву Рады БНР "З нагоды небясьпекі збройнага канфлікту на тэрыторыі Украіны" 3 сакавіка 2014 г.,

- памятаючы 75-годзьдзе пачатку Другое Сусьветнае вайны і стагодзьдзе пачатку Першае Сусьветнае вайны ў гэтым годзе:

(A) рашуча асуджае збройную агрэсію Расейскай Фэдэрацыі супраць Украіны;

(B) канстатуе, што цяперашнія дзеяньні Расейскай Фэдэрацыі, як і папярэдняя анэксія Крыма, носяць супрацьзаконны характар і супярэчаць базавым прынцыпам міжнароднага права і прынцыпам міжнароднай бясьпекі, распрацаваным пасьля Другой Сусьветнай Вайны, а таксама ўласным міжнародным забавязаньням Расейскай Фэдэрацыі паводле Статуту ААН і іншых двухбаковых і шматбаковых міжнародных актаў;

(C) заклікае міжнародную супольнасьць аказаць усю магчымую падтрымку абароне Украіны ад вонкавай агрэсіі, разглядаючы цяперашнюю сытуацыю як найбольш сур'ёзнае выпрабаваньне для мэханізмаў бясьпекі на эўрапейскім кантынэнце, для ўсяе сучаснае сыстэмы бясьпекі ў міжнародных дачыненьнях, а таксама для мэханізмаў забесьпячэньня жыцьця народаў Эўропы ў міры і згодзе, з часоў Другой Сусьветнай вайны;

(D) заклікае бакі канфлікту ва ўсходняй Украіне да канчатковага пераводу процістаяньня з ваеннага рэчышча ў палітычнае, а міжнародную супольнасьць – да спрыяньня гэткаму пераводу, перадусім праз уплыў на кіраўніцтва Расейскае Фэдэрацыі;

(E) папярэджвае афіцыйных асобаў Рэспублікі Беларусь аб адказнасьці за магчымае ўцягваньне Беларусі ў вайну і падтрымку збройнай агрэсіі. Удзел Беларусі ў агрэсіўных зьнешніх авантурах кіраўніцтва Расеі або прамое ці ўскоснае спрыяньне ім зьяўляюцца цалкам недапушчальнымі, зважаючы асабліва на цяжкія страты, якія Беларусь пацярпела ў выніку войнаў на працягу апошніх стагодзьдзяў. У прыватнасьці, недапушчальным зьяўляецца выкарыстаньне для любых формаў уцягваньня Беларусі ў вайну абавязкаў, прынятых ад імя Беларусі дзяржаўным кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі ў рамках Арганізацыі Дамовы Калектыўнай Бясьпекі, а таксама любых іншых угодаў, заключаных названым дзяржаўным кіраўніцтвам ад імя Беларусі з Расейскай Фэдэрацыяй;

(F) заклікае міжнародную супольнасьць, зважаючы на спробы рэжыму Аляксандра Лукашэнкі здабыць зь цяперашняй міжнароднай сытуацыі выгоды на карысьць палітычнага і эканамічнага становішча сваёй улады над Беларусьсю, прытрымлівацца пасьлядоўнай і цьвёрдай пазыцыі адносна гэтага недэмакратычнага і рэпрэсіўнага рэжыму. Рада БНР падкрэсьлівае, што комплексная нармалізацыя стасункаў паміж сучаснымі ўладамі Рэспублікі Беларусь і міжнароднай супольнасьцю дапушчальная толькі пасьля вызваленьня і рэабілітацыі беларускіх палітычных вязьняў, правядзеньня дэмакратычных выбараў у Беларусі і пры ўмове забесьпячэньня грамадзянам Рэспублікі Беларусь базавых дэмакратычных свабодаў;

(G) выказвае сваю салідарнасьць і падтрымку народу, дзяржаўнаму і ваеннаму кіраўніцтву Украіны, якая перажывае адзін з найбольш драматычных і адказных момантаў у сваёй найноўшай гісторыі. Ад таго, ці вытрымае Украіна цяперашнія выпрабаваньні, будзе залежаць і будучыня Беларусі і рэгіёна;

(H) вітае і разглядае любую падтрымку, якую беларусы ў Беларусі і ўсім сьвеце будуць аказваць украінскаму народу і дзяржаве ў справе абароны суверэнітэту Украіны ад вонкавай агрэсіі, а таксама такую падтрымку трэцім бакам, якія б дзейнічалі ў названых мэтах, як адпавядаючую доўгатэрміновым інтарэсам нацыянальнай бясьпекі Беларусі.

# Івонка Сурвілла – Пятру Парашэнку: "Наша будучыня залежыць і ад Украіны"

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла прывітала прэзыдэнта Украіны Пятра Парашэнку ў Атаве ў часе наведваньня ім канадыйскага парляманту.

Кіраўнік Украіны наведаў Канаду перад візытам у Злучаныя Штаты, пасьля выступу ў парлямэнце яго прывіталі прадстаўнікі дыяспараў. Першай слова было дадзена старшыні Рады БНР Івонцы Сурвілле, якую Радыё Свабода папрасіла распавесьці пра сустрэчу.

Сурвілла: «Для ўкраінцаў гэта была вялікая падзея, і думаю, што і для самога прэзыдэнта, якога прынялі вельмі цёпла. Зрабілі гэта вельмі ўрачыста, было шмат людзей, шмат сьцягоў перад парлямантам, і сярод іх — наш бел-чырвона-белы. Пасьля прамовы Парашэнкі ў парлямэнце прадстаўнікоў дыяспараў запрасілі сказаць пару слоў, між іншым, мяне таксама. Я прывітала яго і падзякавала ўкраінскаму народу за змаганьне, якое важнае таксама для Беларусі. (тэкст выступу падаем ніжэй). Гаварыў прадстаўнік Эстоніі, вельмі добра выступіў прадстаўнік крымскіх татараў, які сказаў, што Крым будзе заўсёды украінскім. Што я заўважыла — і гэта тычыцца ня толькі сустрэчы з Парашэнкам — украінцы адсунулі ўбок усе свае спрэчкі і сваркі, і цяпер адчуваецца абсалютная згода і супрацоўніцтва між сабой».

Івонка Сурвілла таксама перадала прэзыдэнту Пятру Парашэнку нядаўнюю Заяву Рады БНР ў справе Украіны.

Тэкст выступу Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы на ўрачыстасьці з нагоды візыту прэзыдэнта Ўкраіны Пятра Парашэнкі:

Спадар Прэзыдэнт, я шчасьлівая вітаць Вас у гэтай цудоўнай краіне ад імя маіх суродзічаўбеларусаў.

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні, хацела б выказаць нашую салідарнасьць і нашу падтрымку народу, ураду і вайсковаму камандваньню Ўкраіны, якія абараняюць ня толькі сваю зямлю, але і нашыя агульныя каштоўнасьці ад брутальнага агрэсара.
Мы ўдзячныя Канадзе за падтрымку Ўкраіны і заклікаем міжнародную супольнасьць аказаць усю магчымую дапамогу гэтай гераічнай нацыі. Мы разумеем, што наша будучыня таксама залежыць і ад таго, ці вытрымае Ўкраіна выпрабаваньні. Мы дзякуем народу Ўкраіны і жадаем вам посьпехаў!

Жыве Беларусь!
Слава Ўкраіне!

# Другі фэстываль мастацтваў беларусаў сьвету ў Менску

Цягам трох дзён — ад 12 да 14 верасьня сёлета ў Менску і Менскай вобласьці прайшлі імпрэзы ў рамках Другога фэстывалю мастацтваў беларусаў сьвету, які быў арганізаваны афіцыйнымі ўладамі Беларусі.

Першы фэстываль мастацтваў беларусаў сьвету адбыўся ў 2011 годзе ў межах іншай культурніцкай падзеі — «Славянскага базару».

Беларусы з 18 краін сьвету ў першы дзень праехаліся з канцэртамі па вёсках і аграгарадках, на наступны - выступілі на адкрытых пляцоўках сталіцы пад час сьвяткаваньня Дня гораду, а на завяршэньне ў нядзелю адбыўся гала-канцэрт творчых калектываў беларусаў замежжа на сцэне Беларускай дзяржаўнай філярмоніі.

Пад час працы Фэстывалю адбылося пятае паседжаньне Кансультатыўнай рады ў справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры. На яго былі запрошаныя кіраўнікі і актывісты беларускіх суполак.

Дырэктар Рэспубліканскага цэнтру нацыянальных культур Міхаіл Рыбакоў, адзін з арганізатараў Фэстывалю, распавёў, як адбываўся адбор удзельнікаў сьвята: «Зразумела, што складана было адбіраць, бо заявак дасылалі вельмі шмат. Але паколькі немагчыма абняць неабдымнае, так ці інакш для кожнай краіны была вызначаная пэўная квота, і калектывы, каб трапіць сюды, у Беларусь, вытрымлівалі між сабой дастаткова сур'ёзнае спаборніцтва. Ня буду хаваць: нават на ўзроўні амбасадаў урэшце даводзілася вызначаць лепшых, што атрымалі магчымасьць прыехаць сюды».

Арганізатары Фэстывалю паведамілі, што ў Менск прыехалі каля 250 удзельнікаў з 18 краінаў - з Аргентыны, Мэксыкі, Гішпаніі, Італіі, Францыі, Расеі, Польшчы, краінаў Балтыі, Украіны, Малдовы, Казахстана. Адна з самых прадстаўнічых дэлегацыяў прыехала з Расеі, перадусім — з сыбірскага рэгіёну, дзе за апошнія паўтары сотні гадоў з розных прычынаў аселі тысячы беларусаў.

На жаль, і выніковы гала-канцэрт у Белдзяржфілярмоніі быў азмрочаны «фільтрацыяй» шэрагу выканаўцаў: на сцэну ня трапілі некаторыя самабытныя калектывы і іх харызматычныя ўдзельнікі.

Пад час Першага фэстывалю такога не назіралася, тады сваё майстэрства прадэманстравалі ўсе заяўленыя калектывы і выканаўцы. Сёлета сцэна Белдзяржфілярмоніі для некаторых аказалася не такой гасьціннай, як амфітэатар «Славянскага базару». Сярод тых, каму было адмоўлена ў выступе на гала-канцэрце аказаўся і шырока вядомы ансамбль аўтэнтычнага сьпеву «Крывічы» з Іркуцку. Як кажа ўдзельнік гурту, вядомы актывіст беларускага руху ў Прыбайкальлі Алег Рудакоў, калі яны прыйшлі ў філярмонію на рэпэтыцыю, ім толькі тады паведамілі, што яны ня будуць выступаць.

«Безумоўна, ёсьць станоўчыя эмоцыі ад фэстывалю. У тым пляне, што ў пятніцу мы змаглі выступіць у Стоўбцах, у суботу быў цудоўны канцэрт на пляцоўцы ля Палаца спорту... Выглядае дзіўнавата, бо ўсё ж гала-канцэрт — галоўнае мерапрыемства гэтага сьвята, падсумаваньне фэстывалю. І ня даць хоць бы па адным нумары кожнаму калектыву — усё гэта спрэчна".

Алег Рудакоў таксама наракае на агульную арганізацыю мерапрыемства. «Ня тое што вельмі прыкра, але нейкае непаразуменьне з арганізатарамі засталося. Бо некаторыя арганізацыйныя рэчы, як мне здаецца, увогуле кульгаюць на адну нагу. Іншым разам з гатэля даводзілася выяжджаць з самай раніцы, адразу са строямі. А потым цэлы дзень зь імі бадзяцца, ня ведаючы, куды іх падзець. Усё ж можна было арганізаваць імпрэзу больш зразумела і ўтульна для людзей, якія прыехалі ў Беларусь здалёк, а некаторыя — упершыню".

А вось якія ўражаньні выказаў пра Фэстываль сп. Пятрусь Капчык з Украіны, якому было дазволена выступіць у гала-канцэрце: "Нас прыехала на фэст звыш 250 асобаў, але кожны з нас ня быў пакінуты арганізатарамі фэстывалю без увагі і апекі. І ў гэтым я бачу асабістую заслугу дырэктара Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міністэрства культуры Беларусі сп. Міхася Рыбакова і яго памочнікаў з РЦНК. Яны літаральна "валіліся з ног", каб усім дагадзіць, каб усё адбылося ў свой час, як планавалася ў праграме фэстывалю. Ад сябе асабіста і шматлікіх іншых удзельнікаў фэстывалю выказваю вялікую падзяку сп. Міхасю і іншым супрацоўнікам. Дзякуючы іхняму разумнаму і шляхетнаму кіраваньню мерапрыемствамі, фэстываль прайшоў на сапраўды эўрапейскім узроўні, а пасьля пабачанага на экскурсіі па Менску мы сьмела канстатавалі: Менск - эўрапейская сталіца!"



*Удзельнікі фэстывалю з расейскай Сыбіры, наперадзе - кіраўніца ансамблю «Крывічы» Воля Галанава і Алег Рудакоў*

Зразумела, што бальшыні тых, хто прыехаў на Фэстываль, было прыемна пабыць на Бацькаўшчыне, пабачыцца з суродзічамі, пабыць у сьвяточнай атмасфэры. Наўрад ці хто з іх запытаўся ў арганізатараў, чаму няма на сьвяце беларусаў з Ангельшчыны, Канады, ЗША.

Гэты Фэстываль канчаткова выразна абазначыў той падзел, які існуе ў адносінах да беларускага замежжа. На візыт у Беларусь былі запрошаныя тыя, хто лаяльна ставіцца да беларускага рэжыму, хто гатовы да супрацоўніцтва з афіцыйнымі ўладамі, хто ня будзе задаваць непрыемных пытаньняў. Толькі такое прадстаўніцтва ад дыяспары патрэбнае сёньня ў Менску, толькі на іх пераважна разьлічаны прыняты нядаўна закон "Аб беларусах замежжа". Але галоўная небясьпека ня толькі ў існаваньні гэтага падзелу, але і ў тым, што сярод тых "нелаяльных" таксама праводзіцца і будзе актывізавацца работа па перацягваньню іх у статак тых, хто без агляду ідзе на супрацоўніцтва з дыктатрскім рэжымам, што мэтанакіравана зьнішчае беларускую мову, культуру ў самой Беларусі і для паказу быццам бы падтрымлівае культуру дыяспары. Беларускаму незалежніцкаму актыву ў замежжы варта прыглядзецца да гэтых тэндэнцый і аказаць супраціў гэтым разбуральным уплывам.

*Ганна Сурмач*

# 500-я ўгодкі перамогі пад Воршай урачыста адзначаліся ў беларускім замежжы

## Таронта


Алена Лявончанка

14 верасьня пасьля ўрачыстае імшы ў грамадзкай залі адбылася юбілейная імпрэза, арганізаваная Згуртаваньнем беларусаў Канады. Сп-ня Алена Лявончанка падрыхтавала прэзэнтацыю, у якой распавяла пра падзеі 500-гадовай даўніны, іх значэньне і асноўных герояў, а таксама ўзгадала сьвяткаваньне гадавіны бітвы пад Воршай у першыя гады незалежнасьці і ўрачыстую прысягу вайскоўцаў пад бел-чырвона-белым сьцягам на вернасьць Беларусі.

Удзельнікі імпрэзы правялі паралелі паміж той даўняй вайной і сёлетнімі падзеямі, калі Расея ізноў пайшла ў наступ на былыя землі Вялікага Княства Літоўскага. Пасьля заканчэньня сьвята частка ўдзельнікаў далучылася да фэсту ўкраінскае культуры, які праходзіць ва ўкраінскіх кварталах Таронта штогод.

## Нью-Ёрк

Сьвяточная імпрэза была праведзена 14 верасьня ў царкоўна-грамадзкай залі на Атлянтык Авэню ў Брукліне. Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА падрыхтавала адмысловую праграму з паказам фільмаў і музыкаю.

Алена Рудзеўская, выпускніца Эўрапейскага гуманітарнага ўніверсытэту ў Вільні, распавяла пра бітву пад Воршаю, пра расклад сілаў і вайсковы талент Канстанціна Астрожскага, які здолеў выйграць бітву меншай колькасьцю вояроў. Яе апавяд дапоўніў старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА Андрэй Асадчы, таксама выпускнік ЭГУ, ён падкрэсьліў палітычную на той час і гістарычную значнасьць перамогі пад Воршаю.

Тацьцяна Красоўская падтрымала думку пра тое, наколькі важная роля асобы ў гісторыі. Бітва пад Воршаю была выйграная дзякуючы розуму і вайсковаму вопыту Канстанціна Астрожскага, дзякуючы таленавітаму кіраваньню Вітаўта і Ягайлы была выйграна Грунвальдзкая бітва. У нашай гісторыі былі яркія асобы, якія моцна паўплывалі на ход падзеяў, што сталі лёсаноснымі для Беларусі. Сп. Красоўская згадала імёны Кастуся Каліноўскага, братоў Луцкевічаў, Зянона Пазьняка.

## Стральба з лука - у памяць аб нашых продках. Маямі

Стральбой з лука 28 верасня 2014 мы, сябры гуртка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня БАЗА ў Паўднёвай Флярыдзе, вырашылі адзначыць перамогу нашых продкаў, якія змагаліся ў Аршанскай бітве.

Гэтае мерапрыемства было прысвечана 500 гадоваму юбілею бітвы на рацэ Крапіўне. Бой, які доўжыўся практычна цэлы дзень, множныя атакі і контратакі, гераізм нашых продкаў зьявіліся крыніцай нашага натхнення.

Стральба з лука як лейтматыў мерапрыемства была абрана намі не выпадкова. На працягу многіх стагодзьдзяў менавіта стральба з лука забясьпечвала нашых продкаў правізіяй і абараняла іх землі ад захопнікаў. Менавіта лук і стрэлы, а таксама майстэрскае валоданьне імі, адыгралі далёка не апошнюю ролю ў перамозе войска Вялікага Княства Літоўскага над перавышаючай па колькасці арміяй Маскоўскай дзяржавы 500 гадоў таму.

Перамога нашых продкаў адыграла значную ролю ў захаваньні цэласнасьці земляў ВКЛ і прадэманстравала ўсходняму суседу мужнасьць, ваенную кемлівасьць і адвагу беларускага народу.

Сярэднявечная беларуская музыка, якая суправаджала ўсё мерапрыемства, узмацняла пачуцьцё прыналежнасьці да гістарычнага мінулага.

Услед за стральбой з лука, пад акампанемент запісаў гурта "Стары Ольса", мы развучылі сярэднявечную малітву «Багародзіца». Гэтая малітва ў 14 - 17 стст. зьяўлялася дзяржаўным гімнам ВЛК і сьпявалася перад бітвамі войскаў Вялікага Княства Літоўскага, а таксама на розных цырымоніях і ўрачыстасьцях.

«Багародзіца» адкрыла сабой паведамленьне



пра Аршанскую Бітву і папярэдніх ёй падзей 500-гадовай даўніны, які падрыхтавала Сакратар гуртка БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе Паліна Прысмакова.

Прэзэнтацыя выклікала цікавыя дэбаты адносна як самой Аршанскай бітвы, так і яе вынікаў, бо кожны з нас чэрпаў інфармацыю з розных крыніц, часьцяком супярэчных адзін аднаму. Аднак, усе зышліся ў меркаванні, што перамога ў бітве пад Воршай мае важнае гістарычнае значэньне як для ВКЛ 500 гадоў таму, так і сучаснага беларускага грамадства.

На маю думку, што на сёньняшні дзень сама Аршанская бітва 1514 года, яе вынікі і гістарычнае значэньне застаюцца пытаньнямі палітызаванымі і шмат у чым залежаць ад таго, хто кіруе дзяржавай. З прыходам да ўлады А. Лукашэнкі ў 1994 годзе дзяржаўныя чыноўнікі ўсяляк імкнуцца замоўчваць як саму бітву, так і яе гістарычную важнасьць для беларускага народа. Ідэя вайны паміж беларусамі і расейцамі ніяк не ўпісвалася ў ідэі інтэграцыі Беларусі ў склад Расеі, якім так спрытна спекуляваў А.Лукашэнка на світанку сваёй палітычнай кар'еры ў якасці Прэзыдэнта краіны.

Нягледзячы на тое, што ідэі інтэграцыі Бела-



русі з Расіяй адыйшлі ў нябыт, а сама ідэя перастала быць казырнай картай цяперашняга рэжыму, абмеркаваньне тэмы Аршанскай бітвы працягвае быць пад забаронай беларускіх уладаў, і спробы яе адрадзіць пераследуюцца праваахоўнымі органамі краіны. Сучасны беларускі палітычны рэжым у Беларусі ня хоча гаварыць пра гэтую перамогу, таму што гэта супярэчыць ідэям дзяржаўнай палітыкі, якая грунтуецца на адмаўленьні нацыянальнай ідэі беларускага народа.

Аршанская бітва важная для беларускага народа з таго пункту гледжання, што ў ёй упершыню войскі ВКЛ усталі пад бел-чырвона-белы сьцяг, сьцяг, які сёньня асацыюецца са свабодай ад дыктатарскай палітыкі цяперашняга Прэзыдэнта Беларусі А.Лукашэнкі. Бел-чырвона-белы сьцяг у сучаснай Беларусі прыроўнены да экстрэмізму, а яго нашэнне і публічная дэманстрацыя караецца рэпрэсіўнымі органамі Беларусі.

Я лічу, што Аршанская бітва важная для фарміраваньня беларускай нацыянальнасьці, самавызначэньня і нацыянальнай сьвядомасьці. А. Лукашэнка баіцца фарміраваньня ідэй нацыянальнага самавызначэньня ў сьвядомасьці беларуса, бо гэта фактычна можа азначаць заканчэньне эпохі яго пустой прапаганды, заснаванай на папулізме, а таксама разбурыць яго план стварэньня мініяцюры Савецкага Саюза на тэрыторыі Беларусі.

Напрыканцы, я як Старшыня гуртка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня БАЗА ў Паўднёвай Флярыдзе, хацеў бы падзякаваць Сакратарыяту гуртка, а таксама ўсім тым, хто аказаў дапамогу і падтрымку ў арганізацыі, а таксама прыняў непасрэдны ўдзел у дадзеным мерапрыемстве.

На сёньняшні дзень існуе мноства розных меркаваньняў па пытаньні Аршанскай бітвы і яе ролі ў гісторыі. Аднак, на мой погляд, бясспрэчным застаецца адно - перамога ў Бітве пад Оршай назаўжды павінна застацца ў памяці беларусаў як сімвал мужнасьці, гераізму нашых продкаў, як сімвал барацьбы за нацыянальнае адзінства і адзінства нацыянальных тэрыторый.

*Сяргей Волкаў,*
*Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе*



# Фэстываль "Атлянтык Антык": заслужаная ўзнагарода



Кожны год напрыканцы верасьня ў Брукліне адбываецца папулярны фэстываль "Атлянтык Антык". Сёлета фэст сьвяткаваў свой 40-ы юбілей. Надвор'е выдалася сонечнае, цёплае, Атлянтык Авэню была запруджана народам. Прыйшлі ня толькі навакольныя жыхары, але і з іншых боро Нью-Ёрка. Мы сустракалі нават сваіх сяброў з Мангэтану. Усюды гучала музыка на розных мовах. Але прысутных найбольш прываблівалі гандлёвыя рады паабапал вуліцы, дзе было ўсё, што толькі можна пажадаць: апрануць, абуць, упрыгожыцца, смачна паесьці і нават выпіць нейкія дзівосныя напоі. Адусюль ішлі прыемныя смачныя пахі свежазгатаванай ежы ўсіх народаў, што жывуць у мэтраполіі. І сярод іх быў чуваць заманлівы пах нашых беларускіх дранікаў, смажаных каўбас, кілбасак, галубцоў ды блінкоў з тварагом. Усё гэта мы прадаём на сьвяце кожны год, усталяваўшы імправізаваную "рэстарацыю" якраз насупраць нашай беларускай царквы на Атлянтык Авэню 410. У гэтым нам здорава шанцуе, бо нашы стравы мы падаем проста з пліты, "з пылу з жару", з нашай грамадзкай кухні ў будынку, нікуды ня трэба везьці ці несьці, усё побач. Выглядае, што наш будынак падабаецца мінакам найбольш, і звычайна каля нас сядзяць на ходніку ці на прыступках шмат людзей і ласуюцца нашымі і ня нашымі стравамі. На фэстывалі мы маем ужо сваю клієнтуру, людзі з ранейшых гадоў памятаюць беларускую ежу і прыходзяць каб паласавацца ізноў. А нашы жанчыны і дзяўчаты тым часам завіхаюцца на кухні ды распрадаюць нагатаванае. Праўда, завіхацца даводзілася ўжо цэлы тыдзень перад гэтым, каб набыць прадукты, скласьці меню, згатаваць тое, што можна зрабіць раней. Як і раней, кіраўніцтва ўсімі гэтымі падрыхтоўчымі справамі ўзяла на сябе сп-ня Тацьцяна Красоўская - кіраўнічка сястрынства нашай Парафіі, бо менавіта Парафія Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ зьяўляецца афіцыйным удзельнікам Фэстывалю. Памочнікаў у сп. Тацьцяны не было так шмат, але знайшліся тыя адказныя, хто не пашкадаваў свайго часу і сілаў, каб зрабіць усё патрэбнае да сьвята, на якім Парафія зарабляе сродкі на ўтрыманьне. Да позьняга вечара напярэдадні на кухні працавалі Галіна Шчэрба і Мікола Шчэрба, дапамагала круціць галубцы новапрыбылая маладая пара - Ганна і Алесь Земляковы, яны ж і пад час сьвята цэлы дзень стаялі за прылаўкам і гандлявалі стравамі. Блінкоў напякла дома Наташа Старавойтава. Закупы дапамагала рабіць Ала Караткевіч.



*Шкляная ганаровая грамата*

У нядзелю ізноў прыйшла падмога - Наташа Федарэнка, Алена Дубавая і Людміла Пунчанка ня толькі прадавалі, але і гатавалі ежу. Вельмі шмат дапамагала на кухні маладая беларуска Ірына Міляўскі са сваім мужам-палякам Артурам, з сястрою Вольгаю і дачушкаю Янаю,

Васіль Кузьменка забясьпечваў тэхнічнае абсталяваньне месца гандлю і прыборку пасьля заканчэньня. А Мікола Шчэрба арганізаваў музычнае афармленьне, і мінакі маглі слухаць каля наша будынку беларускія мэлёдыі.

Над нашымі сталамі мы заўсёды вывешваем вялікую расьцяжку з назваю нашай царквы, каб запамяталася. І наша заўсёдная дзейсная прысутнасьць на Фэстывалі не засталася не заўважанаю яговымі арганізатарамі. У сувязі зь юбілеем яны падрыхтавалі ўзнагароды тым арганізацыям, якія доўгі час удзельнічаюць у падтрымцы традыцыі Фэстываля, а таксама адыгрываюць значную ролю ў разьвіцьці гэтага раёну Брукліна. Узнагароды ўручаліся на адмысловай урачыстай імпрэзе, на якую быў запрошаны старшыня Парафіяльнай рады нашага Сабору сп. Расьціслаў Гарошка. Там сп. Гарошку была перададзена ўзнагарода - шкляная памятная грамата для нашай Парафіі як аднаой са старэйшых арганізацый, сярод гэтых старэйшых мы былі недзе на 3 ці 4 месцы. Так што наша шматгадовая праца была ацэнена належным чынам і сёлетні Фэстываль стаўся для нас асабліва адметным.

Пад час Фэстывалю ў грамадзкай залі сабору адбыўся прагляд сэрыі дакументальных фільмаў Babylon-13 украінскага рэжысэра Юрыя Грузінава, зьнятых ім з кастрычніка 2013 года. Пасля прагляду прайшло абмеркаваньне з удзелам актывісткі украінскага руху ў Нью-Ёрку Натальлі Стэльмах, старшыні Бруклінскага аддзелу БАЗА Андрэя Асадчага і актывіста грузінскай дыяспары Леа Тактакішвілі. Удзельнікі адзначылії паралелі між падзеямі ў Грузіі ў 2008 годзе і ў сёньняшняй Украіне і іх уплыў на сытуацыю ў Беларусі.

Прыемнай неспадзяванкаю сталася сустрэча з Джонам Кунстадтэрам, які ў гэты дзень завітаў да нас пасьля сваёй сёлетняй паездкі ў Беларусь. Ягоная выстава фотаздымкаў яшчэ знаходзілася ў нашай грамадзкай залі. Сп. Кунстадтэр паабяцаў нам наведвацца у наш беларускі цэнтр і распавесьці пра сваё новае падарожжа.

Фэстываль каля нашага будынку гудзеў амаль да позьняга вечара. А мы сваёй беларускай грамадою таксама па-сяброўску пасядзелі, пагаманілі ў грамадзкай залі. Фэстываль - гэта заўсёды магчымасьць сустрэцца зь сябрамі, добра папрацаваць разам і адпачыць. Спадзяемся, што і ў наступным годзе будзем мець такую нагоду.

*Ганна Сурмач*

## Зьезд партыі БНФ і грамадзкага аб'яднаньня "БНФ Адраджэньне"

11 кастрычніка ў Менску ў памяшканьні канцэртнай залі ДК (былы ДК «Сукно»), што на вуліцы Матусевіча, адбыўся справаздачна-выбарны зьезд партыі БНФ і грамадзкага аб'яднаньня "БНФ Адраджэньне". На яго было вылучана больш за 200 дэлегатаў.

Старшынём Партыі БНФ пераабраны Аляксей Янукевіч, за яго прагаласавалі 113 дэлегатаў зьезду.

# Саўтрывэрскі фэстываль

Сёлетні адбыўся крышку пазьней, чым папярэднія. Заміж жнівеня дамовіліся зрабіць яго ў верасьні. Чаму? А-а, бо ў верасьні ня так горача. Але з надвор'ем, брат, не жартуй і не камандуй. Фэстывальны дзень у суботу, 6-га верасьня, выпаў і душны, і дажджлівы. Добра, што будаўнікі рэлігійна-грамадзкага цэнтру – мудрыя людзі! – пабудавалі разам з царквой сьв. Еўфрасіньні Полацкай прасторную залю са сцэнай і барам.

Народу сабралася чалавек пад дзьвесьце. Прыгожа прыбраная заля, накрытыя круглыя сталы, мяккія крэслы. З аднаго боку шэраг сталоў зь ядой, з другога – такія ж сталы з акуратна абвязанымі кошыкамі лятарэйных фантаў. Кошыкаў тых як вокам кінуць, і ўсе напоўнены прываблівымі аб'ектамі. Квіткі на лятарэю йшлі направа й налева.

Спадарства Валянцін і Тацьцяна Дзямешчыкі, з удзелам трубача Сяргея Дзямешчыка, забясьпечылі гасьцям на працягу дня прыемныя й забаўныя песьні, мэлёдыі ды музыку пад танцы.

Танцавальны гурток "Лянок" (харэаграфія спні Вілы Леўчук) пацешыў вока гледачоў і прыцягнуў увагу масы фатографаў. Танцавалі ў "Лянку" спадарычні: Кася, Юля й Аня Бялагловы, Ліза Кузьміцкая, Вольга Дзямешчык, Людміла Зэкава й Вольга Ярыгіна.

Са сьпевамі выступілі Ліза Кузьміцкая й Кіра Карніенка. Ліза пачуццёва прадэклямавала таксама два беларускія вершы.

Выказваючы тут падзяку ўсім удзельнікам імпрэзы - хто прыбіраў пляц (а сярод іх былі й госьці зь Беларусі), хто прыгожа аформіў і расставіў лятарэйныя кошыкі на сталах (Жорж Арцішэнка, Ліля Тур, Рыта Юхнік, Кейты Мэрлоў і Надзя Наумчык), хто абслугоўваў сталы й бар, прадаваў квіткі, вёў лятарэю, хто забаўляў і весяліў народ - трэба асабліва падкрэсьлена назваць жанчын, якія ў гарачае надвор'е некалькі дзён падрад працавалі ў кухні, рыхтуючы смачную ежу, а гэта спадарыні: Арцішэнка Соня ("Малая"), Наумчык Марыя, Вера Мяжэвіч і Надзя Наумчык.

Дзякуючы названым і неназваным працаўнікам-рыхтавальнікам фэстывалю, ахвярадаўцам фантаў, дзякуючы таксама ўсім, хто прыбыў на яго, каса царкоўнага прыходу папоўнілася, падмацоўваючы гэтым надзею, што беларуска-амэрыканская грамада ў Саўт Рывэры й ваколіцах здолее забясьпечыць сабе доўгую будучыню.

*Янка Запруднік*

# Пра закон, які атрымалі...

Напэўна, у агульным сэнсе мае права стацца агучаным тое, што сытуацыя сёньня, калі закон "Аб беларусах замежжа", якога чакалі 20 год, нарэшце, прыняты, лепшая, у параўнаньні з тою, калі закону ня існавала. І менавіта, зыходзячы з гэтае трывіяльнае дэфініцыі, пэўная частка Беларускае дыяспары ўпала у эйфарыю. Маўляў, нас заўважылі, з намі лічацца, нам пайшлі насустрач, нам прапаноўваюць супрацоўніцтва, дапамогу ў культурным разьвіцьці, мы суб'ект міжнароднага права. І таму закон цудоўны...

Панове, давайма бліжэй да канкрэтыкі й практыкі. Закон на тры чвэрці мае дэкляратыўны характар. Утрымліваецца шэраг дэфініцыяў адносна таго, хто такія беларусы замежжа, чым маюць займацца ў сваёй дзейнасьці беларускія грамадзкія арганізацыі замежжа і мэтраполіі. Як быццам усё напісана правільна. Але нормаў прамога дзеяньня практычна няма. І таму паспрабуйма, напрыклад, пасупрацоўнічаць з урадам Беларусі ў выкананьні такое дэфініцыі закона, як "...задавальненьне нацыянальна-культурных патрэб беларусаў замежжа і грамадзкіх аб'яднаньняў беларусаў замежжа...". Адразу ж узьнікае пытаньне: "Хто вызначае нашыя патрэбы - мы, беларусы замежжа, ці ўрад Беларусі?" Мы кажам: "Сярод іншых мы маем і такія патрэбы - як адзначэньне адметных датаў з гісторыі беларускага народу. Падтрымайце нас у задавальненьні гэтых патрэбаў". А яны ў адказ: "Аршанская бітва? Дзень Воінскае Славы? Ён не зьяўляецца афіцыйным дзяржаўным сьвятам, таму нават й размовы не вядзем... Дзень Волі? Угодкі Слуцкага Збройнага Чыну? Спадары беларусы замежжа, ну навошта адразу ж ісьці на канфрантацыю? Давайма пра тое агульнае, што нас зьядноўвае". І гэтак далей па аднойчы заведзенай беларусафобамі сьцежцы...

Сыстэма распрацоўкі і ўводу ў дзеяньне законаў сёньня ў Беларусі такая ж, што й за саветамі. Закон трасе паветра агульнымі фразамі - прыгожымі, дэмакратычнымі, надзённымі і... расплыўчатымі. Але дзяржаўны чыноўнік, атрымоўваючы грошы за забесьпячэньне практычнага дзеяньня закону, кіруецца ня імі, а падзаконнымі актамі: інструкцыямі, тлумачэньнямі, палажэньнямі, дапаўненьнямі і г.д., якія, як паказвае шматгадовая практыка, у стане перакуліць дэкляруемае законам з ног на галаву, праводзячы на практыцы зусім іншае, чым прадэкляравана ў ім, па сваёй сутнасьці іншым разам нават супрацьлеглае...

Звычайна дзяржава, калі цяжка ў палітычным пляне, і калі настае такое, што трэба скансалідавацца ўсёй нацыі дзеля супрацьстаяньня агульнай глябальнай небясьпецы, што пагражае нацыі, пачынае разумець, як істотна заручыцца ідэялагічнай, палітычнай падтрымкай дыяспары. І ліхаманкава пачынае "працаваць" зь ёю. Асабліва, калі колькасна замежныя суродзічы складаюць значную частку з агульнай колькасьці прадстаўнікоў разглядваемага этнасу.

Беларусы замежжа складаюць ад 25 да 30 адсоткаў беларусаў у сьвеце. Сьведамых ці нясьведамых, часткова спаланізаваных ці зрусіфікаваных, але беларусаў менавіта ў этнічным пляне. Доктар Вітаўт Кіпель у кніжцы "Беларусы ЗША" (БІНІМ 1993 г.) паказвае колькасьць беларусаў у Амэрыцы ў тры чвэрці мільёна. І перафразоўвае аднае вядомае выслоўе: "Паскрабі амэрыканскага расейца, дык знойдзеш беларуса (або украінца, грузіна й г.д.)". Вікіпэдыя утрымлівае дадзеныя, што колькасьць жыхароў ЗША польскага паходжаньня складае каля 8 млн. з 312 млн. усяго насельніцтва. Сёньня маюцца даволі сур'ёзныя падставы сьцвярджаць: "Паскрабі тых 8 млн. амэрыканскіх палякаў, дык знойдзеш ад 1 да 2 млн. беларусаў". Бо, напрыклад, усе эмігранты, хто пакінуў Заходнюю Беларусь у перыяд з 1921 па 1939 г., мелі польскія пашпарты і пры рэгістрацыі ў паўночнаамэрыканскіх пунктах па прыёму імігрантаў іх запісвалі палякамі. А колькі беларусаў іншымі шляхамі зрабіліся палякамі? Праз касьцёл, шлюбы і г.д. І пра гэта ўлады Беларусі добра ведаюць, маючы, магчыма, яшчэ й больш дакладную статыстыку, чым дыяспара.

І калі за саветамі на ўсіх дзяржаўных узроўнях сьцьвярджалася, што за мяжою, акрамя некалькіх тысячаў былых паліцаяў і здраднікаў, ніякіх беларусаў больш няма, то сёньня наадварот - беларускія дзяржаўныя інстытуцыі павялічваюць лічбы, падвышаючы гэтым, ну хоць бы колькасна, вагу ўсяе эміграцыі.

Наступны крок - схіліць эміграцыю на свой бок. Магчымы такі алгарытм дзеяньняў. Распачынаецца кампанія па навязденьню кантактаў зь існуючымі беларускімі арганізацыямі праз амбасады й прадстаўніцтвы Беларусі. Прапаноўваецца супрацоўніцтва ў культурнай, інфармацыйнай сфэрах з аказаньнем пэўнае матэрыяльнае дапамогі з боку дзяржавы. Рана ці позна такія спробы натыкнуцца на супраціў грамадзкіх аб'яднаньняў сьведамых беларусаў, бо апошнія ні пры якіх умовах не саступяць у пытаньнях выкарыстаньня нацыянальных сымбаляў - Бел-Чырвона-Белага Сьцягу й Пагоні, адзначэньня непрызнаных дзяржаваю Беларусь такіх беларускіх сьвятаў, як 25 сакавіка (Дзень Волі), 25 жніўня (Дзень адраджэньня незалежнасьці Беларусі), 8 Верасьня (Дзень Беларускае Вайсковае Славы, Слуцкі Збройны Чын. Улады разумеюць тое і таму, магчыма, распачнуць фармаваньне "пятае калёны", закладваць паралельныя БАЗА, ЗБК арганізацыі і заманьваць у іх людзей. Калі б сёньня нашыя структуры ахоплівалі сваім уплывам 80-90% беларусаў Паўночнае Амэрыкі (ЗША, Канада), то арганізатарам тых новаўтвараемых структураў прыйшлося б пераманьваць тых, хто сёньня з намі. І ім цяжка сталася б растлумачыць тым жа самым беларусам, хто пад нашым уплывам, чаму вышэйзгаданыя сьвяты - ня нашыя, не гістарычныя, чаму месца Калбасіна, дзе пад час Другое Сусьветнае вайны нямецкія сацыялісты забілі 10 тыс. чалавек, зь якіх большасьць - ваеннапалонныя расейцы, павінна быць пазначана на гістарычных мапах, па якіх беларускія дзеці вывучаюць гісторыю краіны Беларусь, а Курапаты, дзе расейскія сацыялісты пакалі чвэрць мільёна ні ў чым не павінных людзей толькі за тое, што яны беларусы, на тых самых мапах увогуле ня згадвацца, і чаму мы тут, у Канадзе, павінны ўзнагароджваць мэдалём "70 годзьдзе вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў" адстаўных расейскіх вайскоўцаў, нашчадкаў, а магчыма, й самых тых, хто забіваў у Курапатах, страляў у жаўнераў Францішка Кушаля і Барыса Рагулі.

Але ж сытуацыя значна складанейшая, і не на карысьць нам, бо менавіта тых нашых суродзічаў, на каго мы маем уплыў, на каго ў стане ўзьдзейнічаць і інфармацыйна, і культурна, ня болей аднаго адсотку ад агульнае іх колькасьці. І 99% "неахопленых" беларусаў - вось поле дзейнасьці Міністэрства замежных справаў Беларусі, якое пазначана законам як адзіны дзяржаўны ворган, які адказвае за каардынацыю працы ў гэтай сфэры. Што робіцца з боку МЗС? Зарганізуецца закладваньне 2-3 новых беларускіх арганізацыяў у Канадзе і 7-8 - у ЗША. Праводзіцца накштальт Кангрэсу, на які запрашаюцца для ўдзелу ў ім усе існуючыя на той момант беларускія арганізацыі Паўночнае Амэрыкі. І на ім станецца прынятаю (бальшынёю прадстаўніцтваў нованстворыаных арганізацыяў) рэзалюцыя-зварот у падтрымку намаганьняў кіраўніцтва дзяржавы зьяднаць нацыю, усіх беларусаў дзеля сумеснага супрацьстаяньня зьнешняй пагрозе. Пажадаюць БАЗА і ЗБК прыняць удзел у кангрэсе ці не, і нават калі прымуць удзел і прагаласуюць "супраць" - істотнае ролі тое ня вырашыць. Пераважная бальшыня беларускіх грамадзкіх аб'яднаньняў (арганізацыяў)-удзельнікаў кангрэсу прагаласуе "за". А тых, хто "супраць", абвесьцяць маргіналамі, здраднікамі Бацькаўшчыны, жадаючымі паразы Беларусі ў супрацьстаяньні з Расеяю. Маючы слабыя фінансавыя магчымасьці для арганізацыі контрпрапаганды ў параўнаньні зь дзяржаўнымі сродкамі, якія станунцца ўкінутымі ў гэтую кампанію, мы маем высокі шанец прайграць. Нават калі дзяржава зьбярэ пад свае чырвона-зялёныя сьцягі 5-7% з тых 99% "неахопленых", то й іх станецца дастаткова, каб задушыць нас колькасьцю і інфармацыйнымі магчымасьцямі.

А калі на паседжаньні Галоўнае Управы Згуртаваньня Беларусаў Канады палова прысутных сяброў галасуе за тое супрацоўніцтва і толькі недэмакратычная форма Статуту ЗБК, згодна зь якою голас Старшыні ў выпадку роўнае колькасьці "за" і "супраць" залічваецца за два галасы, схіліла агульны вынік галасаваньня не на карысьць супрацы, то гэта ўжо трывожны званочак і для Канады. Як у ваду Зянон Пазьняк глядзеў, перасьцерагаючы пра пачатак нэгатыўных тэндэнцыяў у беларускім асяродку ў Канадзе на Сэсіі Рады БНР у Нью-Ёрку 1 чэрвеня 2013 г. ...

Мы самыя ня маем адзінства ў вызначэньні генэральнае лініі ў сваім стаўленьні да "перніка" - заманлівых магчымасьцяў матэрыяльна-фінансавага кшталту, якія станунцца зрэалізаванымі, калі мы прымем прапанову беларускіх уладаў аб супрацы. Але давайма не забывацца: калі зьявіўся "пернік", то прыпасена й "пуга". Названыя рэчы заўсёды шпацыруюць "пад ручку" - ўжываюцца разам.

Маю скончыць наступным. Кожны з нас разумее, што сёньня атаясамляе сабою сыстэма ўлады ў Беларусі, як у нашай дзяржаве законы распрацоўваюцца, прымаюцца і якім чынам выконваюцца, і ад каго залежыць характар і першага, і другога, і трэцяга. А зараз зьвернемся да артыкулу 7 Закона. Ён пачынаецца з наступнае дэфініцыі: "Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь вызначае агульную дзяржаўную палітыку ў галіне адносін зь беларусамі замежжа..."

Усё цячэ й усё мяняецца. Як вада ракі арашае палі і разбурае сядзібы, мяняе сваё рэчышча,

*Працяг на 9-й бачыне*

# Пра закон, які атрымалі...

Працяг з 8-й бачыны

пакуль не дасягае рысы, за якою мора, у якім яна й раствараецца, так і чалавек стварае, разбурае, мяняе свой сьветапогляд, а разам з тым і накірунак сваіх дзеяньняў, пакуль не дасягае рысы, за якою Вечнасьць. Усё цячэ, усё мяняецца...

Дык што зараз? Працягваць рабіць сваю справу, не даючы ўцягваць сябе ў сумнеўныя аферы. Пільна ставіцца да рознага кшталту захадаў чыноўнікаў МЗС адносна супрацы з намі. І больш уважліва прыслухоўвацца да сп. Пазьняка.

### Замест эпілёгу

"Паважанаму спадару Кату ад уцекача зь Беларусі Няхая прывітаньне.

Калі ласка, зьвярні ўвагу на старонку 323 гэтай вельмі цікавай кнігі. Ты ўбачыш майго бацьку паміж беларускіх пісьменьнікаў. Я ведаў усіх "in person" акрамя спадара Калубовіча. Ён быў міністрам культуры Беларусі ў часы нямецкай акупацыі і памёр больш за дваццаць гадоў таму ў ЗША. Яны з бацькам вельмі сябравалі і нават спалі ў адной койцы ў Калодзішчах, калі працавалі там у маладыя годы настаўнікамі беларускай мовы ў вясковай школе. На жаль, у мяне не было магчымасьці пагутарыць зь ім у Амэрыцы. Цікава, што бы ён мне распавёў пра майго бацьку?.."

Так пачынаўся адзін зь лістоў Анатоля Няхая - сына пісьменьніка Рыгора Няхая. Анатоль Няхай зь сям'ёю прыбыў у Канаду на два тыдні раней за мяне - вясною таго ж самага 1998 г., а вось сёлета яго не стала, заўчасна адыйшоў у Вечнасьць. Анатоль выдатна валодаў беларускай, ангельскай мовамі. Добра разьбіраўся ў сусьветнай і беларускай палітыцы. Ён ніколі не ўваходзіў у якія-небудзь грамадзкія аб'яднаньні, арганізацыі, але ягоны беларускі сьвет, які ён сам сабе адбудаваў, стаўся настолькі багатым, разнастайным, што заставалася толькі ў добрым сэнсе пазайздросьціць яму. Добра ведаючы ягоны асабісты сьветапогляд, маю дадаць, што такога ніякі МЗС не перацягнуў бы на свой бок сваімі "культурніцкімі цукеркамі". І такіх беларусаў сярод 99% "неахопленых" нашым уплывам, але з Беларусяй у сэрцы, у Паўночнай Амэрыцы сотні й сотні. А мо' й больш... Так што ня ўсё кепска ў нашым Беларускім каралеўстве...

*Алесь Кот, Канада*

# Магілы выбітных беларусаў у Празе — пад апекай «Скарыны»

Ад сёньня магілы прэзыдэнтаў Рады БНР Пётры Крэчэўскага і Васіля Захаркі, а таксама сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага на Альшанскіх могілках у Празе ўзятыя пад апеку суполкі «Скарына».



У Празе на Альшанскіх могілках пахаваныя прэзыдэнты Рады БНР Пётра Крэчэўскі (1879-1928) і Васіль Захарка (1877-1943), а таксама выбітны сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі (1900-1982). У апошнія гады, з пэўных прычынаў, вакол пахаваньняў склалася няпростая юрыдычная сытуацыя.

Паводле чэскага заканадаўства, магіла захоўваецца на працягу тэрміну, на які ўнесеныя грошы. Пасьля гэтага арэнду месца на могілках можна працягнуць на наступныя дзесяць гадоў. Калі ж гэтага не здараецца, адміністрацыя могілак дае год, на працягу якога ўладальнік можа ўнесьці плату. Калі і цягам гэтага тэрміну плата ня ўнесеная, уладальнікам пахаваньня робіцца адміністрацыя могілак. Далей магчымыя два варыянты: магіла можа быць прададзеная, і новы ўладальнік можа зьнесьці помнік і зрабіць новае пахаваньне, альбо можа быць узятая пад апеку (адопцыю) нейкай асобай ці арганізацыяй, якая бярэ на сябе абавязкі ў справе яе дагляду. У апошнім выпадку магіла ня можа быць прададзеная, новае пахаваньне таксама немагчымае.

У справе зь беларускімі пахаваньнямі сытуацыя разгортвалася такім чынам, што іх уладальнікам стала адміністрацыя могілак. Гэтак здарылася таму, што асобы, якія былі ўпаўнаважныя даглядаць магілы, памянялі месца жыхарства і зьехалі з Чэхіі, не паведамііўшы свой новы адрас адміністрацыі могілак, не праінфармаваўшы Раду БНР і не перадаўшы нікому справы.

Паводле чэскага заканадаўства, імёны ўладальнікаў магілаў захоўваюцца ў сакрэце, і доўгі час немагчыма было высьветліць іх статус. Аплата перастала паступаць, і летась магілы перайшлі ў чэскую ўласнасьць.

Далей сытуацыя магла разгортвацца ня самым спрыяльным чынам. Магілы трэба было выкупляць паводле экспэртнай ацэнкі іх кошту, які мог дасягаць пяцізначнай лічбы ў далярах. Яшчэ горш, што магілы маглі набыць людзі (ці арганізацыі), для якіх імёны выбітных беларусаў нічога не гавораць — альбо, наадварот, гавораць вельмі шмат — г. зн. дастаткова, каб наўмысна гэтыя магілы зьнесьці.

Адміністрацыя Альшанскіх могілак з разуменьнем паставілася да звароту актывістаў суполкі «Скарына». Быў прапанаваны варыянт апекі, пры якім патрабавалася ўнесьці меншую плату, чым гэта было б у выпадку набыцьця ва ўласнасьць. У сьнежні 2013 году былі падпісаныя дамовы адносна магілаў Пётры Крэчэўскага



і Міхася Забэйды-Суміцкага, і сёньня, 10 верасьня 2014 году, — Васіля Захаркі (пахаваны разам з жонкай). Тэрмін апекі — 10 гадоў, ён можа быць працягнуты. Цягам гэтага часу магілы ня могуць быць прададзеныя, зруйнаваныя, у іх ня могуць быць пахаваныя іншыя асобы.



Тэрмін апекі аплачаны Радай БНР і ахвяраваньнямі на «Дар Сакавіка» супрацоўнікаў беларускай рэдакцыі Радыё Свабода.

*Паводле Радыё Свабода, 10.09.2014*

## Віншаваньне

Парафіяльная рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ сардэчна віншуе парафіянку сп. Алу Трапашка - Караткевіч з нагоды юбілейнага дня народзінаў.

Шчыра жадаем Вам, спадарыня Ала, шчасьлівага далейшага жыцьцёвага шляху, добрага здароўя, цеплыні і спагады ад блізкіх і сяброў, Боскай падтрымкі ва ўсіх Вашых добрых справах і намаганьнях, неаслабнай актыўнасьці ў жыцьці нашай Парафіі.

## Папраўка

Паведамляем, што ў мінулым 608 нумары нашай газэты на ст. 10 была дапушчана памылка - няправільна названа прозьвішча аўтара апавяданьня-былі "Букет Валошак", замест "Леанід Акаловіч" трэба чытаць - "Леанід Левановіч".

Просім сп. Левановіча выбачыць нам гэтую прыкрую памылку.

## Армія Конга сьпявае «Касіў Ясь Канюшыну»



Група афіцэраў Рэспублікі Конга выканала знакаміты гіт «Песьняроў». Пэрформанс адбыўся пад час тэлевізійнага фэстывалю армейскай песьні «ЗОРКА» (2014) у Менску. (Відэа можна паглядзець у інтэрнэце, калі набраць у пошукавіку загаловак гэтай інфармацыі).

## Вэб-часапіс "Сакавік: культура, нацыя" мяняе сваю назву

Пра гэта нам паведаміў ягоны рэдактар сп. Пётра Мурзёнак:" Па рашэньні рэдакцыі наш часапіс, пачынаючы з гэтага нумара, будзе выходзіць пад назвай "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ". Новая назва часапіса, на наш погляд, больш ляканічная. Зьмест і напрамак матэрыялаў часапіса ня зьменяцца. Як і раней, часапіс будзе скіраваны на асьвятленьне праблем станаўленьня і разьвіцьця беларускай нацыі. Мы выходзім з таго, што менавіта праз культуру магчыма рабіць уплыў на сьвядомасьць насельніцтва Беларусі, фармаваць і ўзмацняць нацыю.

Вэб-старонка будзе мець тую ж самую назву як і раней: "Сакавік: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ" (www.sakavik.net)

Радыя таксама паведаміць пра выхад чарговага, шостага, нумара наша вэб-часапіса".

## Зварот ад сп. Пётры Мурзёнка

Дарагія сябры!

Да нас зьвярнуўся па падтрымку фотамастак зь Беларусі, сп. Уладзімір Шарнікаў.

Ён жыве ў Бабруйску. Даўно займаецца фатаграфіяй, для чаго езьдзіць па ўсёй Беларусі, здымае яе прыгожых і цікавых людзей, цудоўную прыроду і вясковую архітэктуру.

Больш падрабязна пра яго творчасьць Вы можаце знайсьці на наступных вэб-сайтах, дзе разьмешчаны яго працы http://www.sharnikov.info і інтэрв'ю з ім http://znyata.com/z-proekty/legends-sharnikov.html .

Як кожны мастак, ён хацеў бы апублікаваць вынікі сваёй працы. Патрэбны сродкі для выданьня фотаальбома: "Беларусь. Вясковая спадчына". У ім будзе тры разьдзелы: Чалавек (быт, партрэты, культура, сьвяты, традыцыі); Прырода і Народная архітэктура (дамы, вокны, студні, млыны). Здымкі зроблены ў пэрыяд з 2000 па 2014 г.г. Здымкі такія, як ёсьць, без прыкрас. Тэкст будзе на трох мовах - беларускай, рускай і ангельскай.

На выданьне 500 экзэмпляраў каляровага фотаальбома аб'ёмам 320 старонак патрэбна каля 10 000 даляраў, якія пажадана сабраць у гэтым годзе.

Зьвяртаемся да Вас па патрымку. Любая сума будзе вельмі дарэчы. Разьлікі паказваюць, што калі б здавалі, да прыкладу, па 100 даляраў, то такіх людзей ці сем'яў павінна быць адна сотня. Для тых, хто мог бы ахвяраваць 500 даляраў і больш, фотаальбом з аўтографам аўтара будзе высланы бясплатна (адрас для перасылкі пашліце на е-мэйл указаны ніжэй).

Просім Вас перасылаць чэкі на Parish of St. Kiryla of Turau на адрас: 524 St.Clarens Ave. Toronto Ontario M6H 3W7 з паметкай (re:) на фотаальбом У. Шарнікава.

На ахвяраваную суму Вы атрымаеце tax receipt.

Вялікая просьба прыняць удзел у падтрымцы гэтага праекта! Шчыры дзякуй!

Па ўсіх пытаньнях можаце зьвяртацца на е-мэйл да Пятра Мурзёнка, рэдактара вэб-часопіса "Сакавік: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ", http://www.sakavik.net

## Прадстаўнікі БАЗА на сустрэчы з Пятром Парашэнкам



*Зьлева направа: Валер Кавалеўскі, Андрусь Асадчы, Алена Радзеўская*

18 верасьня прэзыдэнт Украіны Пятро Парашэнка наведаў Вашынгтон, дзе меў сустрэчу з прэзідэнтам ЗША Баракам Абамам, віцэ-прэзыдэнтам Джозэфам Байдэнам, дзяржсакратаром Джонам Керы, а таксама меў прамову на сумесным пасяджэньні палат Кангрэса ЗША.

Варта адзначыць, што, нягледзячы на стрыманыя адзнакі эфэктыўнасьці дыпляматычных высілкаў спадара Парашэнка ўкраінскімі і амэрыканскімі палітаналітыкамі (на сёньняшні дзень Украіна не атрымала статусу хаўрусьніка па-за блёкам НАТА, як і зброю), візыт украінскага лідара безумоўна спраўдзіў істотную місію, а менавіта, яшчэ раз прадэкляраваў, што ўкраінскі народ ёсьць народам, які абараняе ня толькі сваю тэрытарыяльную цэласнасьць і суверэнітэт, але і ўвесь свет ад агрэсіўных паводзінаў Расіі.

Падтрымаць Украіну падчас сустрэчы ўкраінскага і амэрыканскага калегаў пад Белы дом прыйшлі ня толькі ўкраінцы з Вашынгтона і іншых гарадоў ЗША, але і прадстаўнікі беларускай, польскай, летувіскай, латышскай, грузінскай дыяспар Злучаных Штатаў.

Беручы слова, выступоўцы ад розных беларускіх арганізацый выказвалі сваю салідарнасьць народу Украіны. "У вашым змаганьні з ворагамі дэмакратыі, ворагамі свабоды, ворагамі Украіны беларусы не застануцца абыякавымі. Сытуацыя ва Украіне – гэта і наш клопат, і наш боль. Мы добра ўсьведамляем усе наступствы парушэньня Расіяй міжнароднага права і справакаванага ёй ваеннага канфлікту і выказваем надзею на тое, што, дзякуючы велізарнаму патэнцыялу і маральнай перавазе, украінскі народ здольны дасягнуць сваіх мэтаў у справе абароны сваіх нацыянальных інтарэсаў самастойнымі сіламі, незалежна ад вынікаў любых перамоваў, на любых узроўнях, бо толькі вы вырашаеце вектар вашага разьвіцьця. Плёну вам і перамогі" – гэткімі словамі можна рэзюмаваць прамовы выступоўцаў Валера Кавалеўскага, Андруся Асадчага.

Напрыканцы свайго візыту, з эмацыйнай прамовай да прысутных на пляцы ля Белага дому выйшаў прэзідэнт Парашэнка: "Я вас моцна люблю. Дзякую, што вы не абыякавыя. Украіне зараз патрэбна ваша неабыякавасьць. Я вяртаюся ва Украіну з цвёрдым пераканаsuccessfully, што мы мацнейшыя. Увесь сьвет з намі".




## Ліст ў Рэдакцыю

Я пішу да артыкула , што быў у газэце № 608 пад загалоўкам "Беларусаў замежжа аддалі пад кантроль міністэрства замежных спраў" . Вось слова "кантроль" дае суровае гучаньне. Кантраляваць - рабіць праверку, ці рабіць пертрусуку ў іншым значэньні. Ідэя мець добрую сувязь з краінай паходжаньня людзям замежным пажадана. Гэтую справу павінны былі ажыцьцявіць даўно, зараз жа , як распаўся Савецкі Саюз. Але, урадоўцы былі ў роспачы, што згубяць пасады, і не рашыліся мець сувязь з замежжам, зьмена да лепшага тады адбылася, але хутка павярнулі назад. А зьмена павінна была адбыцца, як гэта сталася ў Польшчы, Літве, Латвіі, Эстоніі, дзе з часам савецкія законы былі заменены дэмакратычнымі.

Беларусь пасьля Другой усясьветнай вайны была прынята ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацыяў. Ад гэтага часу пра Беларусь былі такія-сякія паведамленьні, але ўсё ж разьвіцьцё ў плынь беларускую было перапынена.

Я думаю, што найгоршае, што зрабілі - гэта тое, што прыдумалі "двухмоўе", якое нам моцна шкодная, бо расейшчына перад гэтым была распаўсюджана. Пажадана, каб дзяржаўнаю была толькі беларуская мова, а іншыя - замежнымі. На мой погляд, было б добра, каб урадоўцы ў Беларусі ведалі і ангельскую мову, яны былі б больш дэмакратычнымі.

Мець лучнасьць зь Беларусьсю беларуская эміграцыя жадае ўжо гадамі на карысьць краіне і яе народу. Спадзяюся, што ўсё ўлагодзіцца, і будзе павага адзін да аднаго.

### Паводзіны

Гаспадар пасадзіў квактуху на качыныя яйкі і, калі выйшлі зь іх качаняты, квактуха павяла іх на пагулянку на вазярцо. Тут, вядома, качаняты, як пабачылі ваду, і ўсе рынуліся ад квактухі ў вазярцо. А квактуха як раскавахталася, як раскрычалася, што яны яе дзеці і ня могуць лезьці ў ваду, бо патонуць. Але качанятам спадабалася, яны апынуліся ў сваёй стыхіі і не зьвярталі ўвагі на лямант квактухі. Вось так адбываецца з Расеяю пад двухгаловым пачварным арлом. Пад яго крыламі былі розныя народы, але па сваёй прыроднай інэрцыі яны пачалі ўцякаць ад двухгаловай пачвары. Усе любяць, што ёсьць прыроднай прыналежнасьцю, і туды ідуць, дзе ёсьць іх стыхія.

*Кастусь Верабей*

# Дакумэнтальныя асновы будучай гісторыі эміграцыі

**ЗАПІСЫ Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Т. № 36. Нью-Ёрк – Менск, 2013. 619ст. + 129 ст. Ілюстрацыі. Дыск (мультымэдыйнае выданьне) "Беларускія эміграцыйныя калекцыі". Наклад 299 экз.**

Эмігранты - яны ж і мігранты, каб не сказаць вандроўнікі - у шмат якіх выпадках, сьведама ці нясьведама, пакідаюць па сабе дакумэнтальныя сьляды. І калі пасьля пэўнага часу хочаш апрацаваць гісторыю эміграцыі – а гэта ж арганічная частка гісторыі цэлага народу, - трэба перш-наперш пазьбіраць растрэсеныя па сьвеце сьведчаньні, апублікаваць іх, апісаць, растлумачыць, каб можна было пабачыць сябе ў гістарычным люстэрку. Да ліку энтузіястаў зьбіраньня й апісваньня сьлядоў эміграцыйнага быту трэба залічыць найперш старшыню БНІіМу доктара Вітаўта Кіпеля ды сяброў гэтай установы Лявона Юрэвіча (Нью-Ёрк) і Натальлю Гардзіенку (Менск). Гэта дзякуючы іхнай валатоўскай працы зьявіўся апошнімі гадамі шэраг ёмістых тамоў "Запісы БІНіМ", напоўнены тэкстамі ды апісальнымі й аналітычнымі аглядамі архіўных матэрыялаў.

Зьмест 36-й кнігі "Запісаў": беларусаведныя калекцыі (+ дыск), тэксты, архівы й архівалії, нэкралёгі, лісты, дзёньнікі, рэцэнзіі. Ва ўступе "Ад рэдакцыі" чытаем: "У тэкстах Натальлі Гардзіенкі й Лявона Карповіча ўпершыню робіцца спроба сыстэматызацыі зьвестак пра беларускія маркі, паштоўкі, значкі, капэрты, ідэнтыфікацыйныя дакумэнты, блянкі, пячаткі й г. д., што прадукаваліся й выкарыстоўваліся на Захадзе для своеасаблівага пазначэньня беларускай прасторы, для папулярызацыі беларусаў і Беларусі" (ст.6). Беларусаведная калекцыя - унікальнае вартасьці матэрыял, бо зьбіраньне і апісваньне артэфактаў эміграцыйнага быту вельмі патрэбнае дзеля паўнейшага насьвятленьня жыцьця й дзейнасьці дыяспары.

Асобнай публікацыяй у "Запісах" зьмешчаны передрук працы Кастуся Езавітава "Беларусы ў Латвіі" (Рыга, 1927) і "Беларусы ў Літве" (Рыга, 1932) (ст. 1-129). Тлумачэньне передруку рэдакцыя дала наступнае: "На эміграцыі было створана багата тэкстаў, актуальных і вартых увагі сёньня, тых, што патрабуюць 'вяртаньня' ў сучасную інтэлектуальную прастору".

Слушную прапанову падаў др. Вітаўт Кіпель у сваіх развагах пад загалоўкам "Дасьледаваньне эміграцыі/іміграцыі як частка гісторыі нацыі й дзяржавы Беларусь". На ягоную думку, насьпела цяпер патрэба ў заснаваньні, калі не ў Беларусі, дык, можа, у суседняй Вільні, цэнтру дасьледаваньня беларускай эміграцыі. І сапраўды: за апошнюю чвэрць стагодзьдзя накапілася дастаткова літаратуры, каб такому цэнтру было што распрацоўваць і апрацоўваць. Насьпеў таксама час пісаньня агульнай гісторыі беларускай эміграцыі ў краінах Захаду пасьля Другой сусьветнай вайны, паколькі справа дачыненьняў сучаснай Беларусі з заходнімі краінамі стаіць вострa на парадку дня. Растуць жа цяпер маладыя кадры гісторыкаў і палітолягаў, якім апрацаваньне такой гісторыі павінна быць па плячы.

У канцы 36-га нумару "Запісаў" дадзены англамоўны сьцісла зьмест апублікаваных у кнізе матэрыялаў. Зьмешчаны таксама зьвесткі пра 18 аўтараў тому. Зь іх у Беларусі жывуць Сьвятлана Буель, Натальля Гардзіенка, Валер Герасімаў, Лявон Карповіч, Ганна Кісьліцына, Мікола Трус, Сяргей Харэўскі, Ціхан Чарнякевіч; у Латвіі – Эрык Екабсон; у ЗША – Вітаўт Кіпель, Ігар Лабацэвіч, Лявон Юрэвіч; у Польшчы – Юры Грыбоўскі; у Расеі – Яна Славіна; у Чэхіі – Макс Шчур. Прысутныя ў кнізе й нябожчыкі: Тамаш Грыб, Кастусь Езавітаў, Людміла Краскоўская.

Там жа пералічаны 35 кніжных выданьняў БІНіМу, апублікаваных папярэднімі гадамі, пачынаючы ад 1979 году.

Праробленa вялікая праца, за якую ўдзельнікам гэтай вартаснай публікацыі належыцца шчырая ўдзячнасьць !

*Янка Запруднік*

# Каляндар памятных датаў на лістапад-сьнежань 2014

## Лістапад

**1 лістапада** - 95 гадоў таму, у 1909 годзе, нарадзіўся Іван Касяк, грамадзкі дзеяч, публіцыст, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**1 лістапада** - 30 гадоў таму, у 1984 годзе, памёр Пётра Сергіевіч, мастак

**2 лістапада** - Дзяды

**2 лістапада** - 45 гадоў таму, у 1959 годзе, памёр Аляксандр Орса, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**4 лістапада** - 85 гадоў таму, у 1929 годзе, нарадзіўся Сяргей Карніловіч, грамадзкі і рэлігійны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**8** лістапада - 330 гадоў таму, у 1784 годзе, нарадзіўся Тодар Нарбут, гісторык, археоляг, краязнавец

**12 лістапада** - Дзень памяці Сьв. мучаніка Язафата Кунцэвіча

**14 лістапада** - 75 гадоў таму, у1939 годзе, Заходняя Беларусь афіцыйна ўключана ў склад БССР

**16 лістапада** - Дзень Маці Божай Вострабрамскай - апякункі Беларусі

**19 лістапада** - 10 гадоў таму, у 2004 годзе, памерла Юзэфа Найдзюк (Брэчка), дзеячка нацыянальна-вызваленчага руху, дзеячка эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**22** лістапада - 70 гадоў таму, у 1944 годзе, памёр Кузьма Чорны, пісьменьнік

**26** лістапада - 150 гадоў таму, у 1864 годзе, памёр Тодар Нарбут, гісторык, археоляг, краязнавец

**26** лістапада - 105 гадоў таму, у 1909 годзе, нарадзілася Яніна Кахаяноўская, дзеячка эміграцыі ў ЗША

**29 лістапада** - 65 гадоў таму, у 1949 годзе, забіты ў савецкім канцлягеры Адам Станкевіч, рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзка-культурны дзеяч

**30 лістапада** - 115 гадоў таму, у 1899 годзе, нарадзіўся Міхась Лынькоў, пісьменьнік

## Сьнежань

**3 сьнежня** - 200 гадоў таму, у 1814 годзе, нарадзіўся Іосіф Гашкевіч, дыплямат, мовазнавец, дасьледчык Японіі і Кітая

**4 сьнежня** - 55 гадоў таму, у 1959 годзе, адкрыўся ў Менску Музэй Якуба Коласа

**8 сьнежня** - 100 гадоў таму, у 1914 годзе, нарадзіўся Чэслаў Сіповіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі

**10 сьнежня** - Сусьветны дзень Дэклярацыі правоў чалавека

**11 сьнежня** - 10 гадоў таму, у 2004 годзе, памёр Кастусь Шышэя, дзеяч вызваленчага руху, вязень савецкіх канцлягераў

**15 сьнежня** - 20 гадоў таму, у 1994 годзе, памёр Уладзімір Калесьнік, празаік, літаратуразнаўца, крытык

**16 сьнежня** - 215 гадоў таму, у 1799 годзе, нарадзіўся Ян Баршчэўскі, пісьменьнік, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры

**18 сьнежня** - 80 гадоў таму, у 1934 годзе, памёр Альбін Стэповіч, грамадзка-культурны дзеяч, кампазітар, педагог

**24 сьнежня** - 110 гадоў таму, у 1904 годзе, нарадзіўся Алесь Дудар, паэт

**25 сьнежня** - Каляды (Божае Нараджэньне) паводле грыгарыянскага календара

**25 сьнежня** - 95 гадоў таму, у 1919 годзе, нарадзіўся Кастусь Мярляк, грамадзка-культурны і рэлігійны дзеяч у Аргентыне і ЗША

**29 сьнежня** - 130 гадоў таму, у 1884 годзе, памёр Вінцэнт Дунін-Марцынкевіч, драматург, клясык беларускай літаратуры

# Сьв. памяці Юркі (Юры Усяслаў) Станкевіча (18.03.1928 – 07.08.2014)



7 жніўня ў Празе ва ўзросьце 86 гадоў памёр дзяяч беларускай дыяспары Юрка Станкевіч. Нарадзіўся ў Вільні, дзе былі бацькі, Ян Станкевіч - знаны беларускі дзеяч (родам з падвіленскіх Арлянтаў) і маці (Марыя з дому Новакава, нарадзілася ў гарадку Чэскі Брод). Бацька, студэнт у Празе, да жаніцьства здабываў у Карлавым унівэрсытэце ступень доктара моваведы. Там і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай.

Юрка ня быў, як бацька, моваведам, меў дыплём інжынера-электрыка зь Ньюёрскага Гарадзкога Каледжу, але моваведай і беларусаведай займаўся, можа, нават з большым запалам, чым інжынэрыяй. Бо родная мова й нацыянальна культурная справа ляжала ў яго каля самага сэрца. Юрка быў найбольш патрыётам-настаўнікам, пэдагогам, аўтарам і выдаўцом каля дзясятка школьных падручнікаў ды іншых публікацыяў.

Мы зь Юркам пазнаёміліся-пасябравалі ў 1946 г. у беларускім ДП-лягеры ў Рэгенсбургу, адкуль неўзабаве нас, беларусаў, амэрыканскія ўлады перавезьлі ў Міхэльсдорф недалёка ад гор. Кам на сумежжы з Чэхаславаччынай. Аглядаючыся цяпер назад, гэта быў зорны час юнацтва, сяброўства, школьных заняткаў і ўдзелу ў скаўцкім руху. На гэтым грунце й замацавалася ў нас на ўсе далейшыя гады супраца на грамадзкай ніве. Шляхі нашы пайшлі хутка ў розныя бакі, але нацыянальная справа засталася супольнай.

Працягам шэрагу гадоў Юркава месца жыхарства шмат разоў мянялася: гор. Нью-Ёрк, штат Нью- Джэрзі, гор. Кліўленд у штаце Агаё, Заходняя Нямеччына (дзе адбываў вайсковую службу ў амэрыканскім войску, а пасьля там жа й працаваў у кампаніі Сімэнса).

На пачатку 1960-х Юрка горача падтрымліваў справу набыцьця ў штаце Нью-Ёрк летняга курорту Бэлер-Менск і першыя два гады адпрацаваў мэнаджарам гэтага гістарычна важнага, асбаліва для моладзі, цэнтру беларускага жыцьця. Быў ён таксама дзейным удзельнікам беларускага студэнцкага жыцьця й Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА).

Працаваўшы ў Нямеччыне, у 1972, г. Юрка ажаніўся з Ганай, уцякачкай з Чэхаславаччыны. Адтуль неўзабаве сям'я з малой дачушкай Янай перабралася ў Злучаныя Штаты, у Нью-Джэрзі, а тады – у Каліфорнію. Там разам з каліфарнійцамі Язэпам Арцюхом і Косьцікам Вайцяхоўскім запачаткоўваюць у 1989 г. выданьне англамоўнага квартальніка «Беларускі Агляд» (Belarusian Review). Пасьля доўгай хваробы рэдактара часопісу Язэпа Арцюха Юрка, жывучы ўжо ў Празе, пераймае ад яго рэдактарскую функцыю. Сёлета выдаўцы адзначылі 25-годзьдзе гэтага высокавартаснага квартальніка.

У сваім праскім пэрыядзе жыцьця Юрка Станкевіч актыўна працаваў на грамадзкім полі: браў удзел у заснаваньні суполкі «Пагоня», у рэгістрацыі беларусаў як афіцыйна прызнанай этнічнай меншыні, у выдаваньні бюлетэню «Крывія»; памагаў фінансаваць беларускую клюбоўню, у якой арганізаваў нядзельную школку на падставе ім жа падрыхтаваных падручнікаў. Дзякуючы сваёй лагоднай натуры й заслужанаму аўтарытэту, быў у беларускай грамадзе ўплывовым міратворцам. Сьветлая памяць па ім, хочацца верыць, будзе дабрадзейна ўплываць на далейшую хаду нашай агульнай справы.

Пахавальная імша па Юрку Станкевічу адбылася ў гістарычным касьцеле сьв. Сальватора ў Празе з удзелам сям'і і шырокай беларускай грамады. Пахавалі нябожчыка ў сямейнай магіле ў Кладне недалёка ад Прагі.

Вечная яму памяць.

*Янка Запруднік*

# Сьв. памяці Анатоль Няхай (24 сакавіка 1948 - 25 жніўня 2014)

На 67-м годзе жыцьця пасьля цяжкае невылечнае хваробы адыйшоў у Вечнасьць Анатоль Няхай. Ён мужна змагаўся зь нядугам на працягу двух с паловаю гадоў, да апошняга працуючы, вандруючы па сьвету, сьпяшаючыся жыць, бо ведаў, колькі яму адведзена.

Анатоль нарадзіўся ў Менску. Выхаваны ў творчай інтэлігентнай сям'і ў лепшых беларускіх традыцыях. Бацька - пісьменьнік Рыгор Няхай, маці прафесарка Менскага лінгвістычнага унівэрсыітэту Вольга Няхай, да апошніх дзён свайго 86-гадовага жыцьця выкладала ангельскую мову. Пісьменьніцкія дыскусіі, што даволі часта адбываліся на кватэры спадарства Няхаяў, моцна паўплывалі на фармаваньне сьветапогляду Анатоля, заклалі ў ім добры падмурак любові да Беларушчыны, і ў самастойнае жыцьцё ён выйшаў нацыянальна сьведамаю асобаю. Скончыўшы ў 1970 годзе фізычны факультэт Беларускага дзяржаўнага унівэрсітэту, падчас далейшае працы ён склаўся як таленавіты спэцы-яліст у сваёй галіне. Прыбыўшы зь сям'ёю ў 1998 годзе ў Канаду ён, дзякуючы выпрацаванай з цягам часу настойлівасьці, дамогся працы па сваёй прамой спэцыяльнасьці й тут, натхніўшы на зьдзяйсьненьне таго ж самага сваю жонку Сьвету, дацэнта катэдры матэматыкі Беларускага політэхнічнага інстытуту

, якая сёньня ёсьць прафэсаркаю матэматыкі Сенэка коледжа. І ўжо яны абодва паспрыялі таму, каб ейныя дзеці ў Канадзе атрымалі прыстойную адукацыю.

З Анатолем цікава было дыскутаваць па навуковай тэматыцы ў галіне фізікі, па пытаньнях грамадзкага жыцьця. Анатоль добра разьбіраўся ў сусьветнай і беларускай палітыцы, і абмеркаваньне з гэтым разумным, глыбока інтэлігентным чалавекам тых ці іншых сытуацыяў, падзеяў у сьвеце надавала асабістае задавальненьне суразмоўцу.

Анатоль Няхай пакінуў у смутку жонку Сьвету, дачок Аўгеню і Вераніку. Канадыйскія сябры Анатоля Няхая выказваюць глыбокае спачуваньне ягонай сям'і, усім ягоным сваякам і блізкім.

Няхай там, дзе зорачкі мігцяць, табе, Анатоль, станецца лепш, чым тут.

Сябры з Таронта
Вечная памяць!

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Марыя Дземковіч | $ 50 |
| Вольга Іпатава і Руслан Качаткоў | $100 |
| Вера Прускі | $50 |
| Леанід Шурак | $100 |
| Сябры Анатоля Няхая замест кветак на ягоную магілу | $120 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :**
***BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.
**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*